Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

8 ЛЮТАГА 1927 г.

№ 4 (29)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

Стар.



## Частка неафіцыйная.

## 1. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

АБ ЗВАЛЬНЕНЬНІ АД ГЭРБАВАГА І НАТАРЫЯЛЬНАГА ЗБОРАЎ ЗЬДЗЕЛАК, ЯКІЯ ЗЬВЯЗАНЫ З БУДАЎНІЦТВАМ ПАМЯШКАНЬНЯЎ ДЛЯ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ.

*Акруговым Судом і Акруговым Грашовым Аддзелам.*

У мэтах аднастайнага тлумачэньня натарыяльнымі канторамі арт. 6 пастановы ЦВК і СНК СССР за 16 кастрычніка 1925 г. (З. З. СССР № 74, арт. 542), Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Грашовых Спраў БССР растлумачваюць, што прадугледжанае гэтым артыкулам звальненьне ад гэрбавага і натарыяльнага збораў павінна пашырацца на дакумэнты па зьдзелках дзяржаўных прадпрыемстваў, якія зьвязаны з будаўніцтвам памяшканьняў ня толькі для рабочых, але і для служачых.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі **М. Сегаль.**

Народны Камісар Грашовых Спраў БССР **І. Васілевіч.**

31 сьнежня 1926 г.
№ 159.

---

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

АБ ЗАБАРОНЕ РАЁННЫМ ВЫКАНАЎЧЫМ КАМІТЭТАМ, МЕСТАЧКОВЫМ І СЕЛЬСКІМ САВЕТАМ ПРЫМАЦЬ ДЛЯ ЗАСЬВЕДЧАНЬНЯ ТЫЯ ЗЬДЗЕЛКІ, ДАГАВОРЫ, ДАКУМЭНТЫ АБО ПОДПІСЫ НА ІХ, ЯКІЯ ПАДЛЯГАЮЦЬ ЗАСЬВЕДЧАНЬНЮ Ў НАТАРЫЯЛЬНЫХ КАНТОРАХ.

*Акруговым Выканаўчым Камітэтам і Акруговым Судом. Копіі: Акруговым Пракурорам, Народным Судзьдзям, Натарыяльным Канторам, Раённым Выканаўчым Камітэтам, Местачковым і Сельскім Саветам.*

Пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 5 сакавіка 1926 г. (апублікаванай у З. З. і З. Ураду БССР № 12—1926 г., арт. 45) на Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы, якія знаходзяцца ў мясцовасьцях, у якіх няма натарыяльных кантор, ускладзена частковае выкананьне натарыяльных дзеяньняў.

I. На сельскія і местачковыя саветы ўскладаецца:

1) Засьведчаньне даверанасьцяй, якія выдаюцца:

а) на атрыманьне грашовае і пасылачнае карэспандэнцыі;

б) на вядзеньне спраў у судовых і ў іншых урадавых установах працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі, а таксама пачатковымі каапэратывамі (вытворчымі, спажывецкімі, крэдытнымі і г. д.) і сялянскімі камітэтамі ўзаемнае дапамогі;

в) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі дагавораў працоўнае арэнды зямлі;

г) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі дагавораў арэнды дзяржаўнае зямельнае маемасьці;

д) на падпісаньне абавязнасьцяй пры пакупцы працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі ў розьніцу з выплатаю ратамі сельска-гаспадарчых машын і прылад.

2) Пасьведчаньне асобы атрымальнікаў паштовае карэспандэнцыі і засьведчаньне подпісаў на заявах, павестках і на іншых дакумэнтах, якія ня маюць характару зьдзелак.

3) Засьведчаньне копій дакумэнтаў, калі самыя дакумэнты засьведчаны дзяржаўнымі ўстановамі або выдаюцца імі.

II. Вышэйзазначаныя засьведчаньні за выняткам памянёных пад літ. „а“ ў пункце 1 арт. 1 гэтае пастановы, робяцца сельскімі або местачковымі саветамі толькі ў тым выпадку, калі ў гарадох і ў пасяленьнях, дзе гэтыя саветы знаходзяцца, няма натарыяльных кантор.

III. На Раённыя Выканаўчыя Камітэты ўскладаецца засьведчаньне зьдзелак у выпадках, спэцыяльна зазначаных у законе, як: зьдзелкі па дзяржаўнай насеннай пазычцы, якія заключаюцца беспасрэдна з насяленьнем (увага 2 да арт. 137 Грам. Код.) і дагавораў аб працоўнай арэндзе зямлі (арт. арт. 31 і 32 Зям. Код.).

Ня гледзячы на гэта бязумоўнае паказаньне закону, усё-ж з паступаючых з месц матар'ялаў відаць, што шмат які Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы прымаюць да засьведчаньня зьдзелкі і дагаворы нават у тых выпадках, калі засьведчаньне іх па закону ўскладаецца на натарыяльныя канторы, аб нават сьведчаць подпісы на актах—дагаворах аб продажу жылых будынкаў тады, як, згодна арт. 185 Грам. Кодэксу, купля—продаж будынкаў і права забудоўкі пад страхам несапраўднасьці дагавору, прадугледжанай арт. 29 Грам. Код., павінна быць зроблена толькі ў натарыяльнай канторы з наступнай рэгістрацыяй ў адпаведным камунальным аддзеле.

Таксама Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы няправільна сьведчаць подпісы на ўсякага роду дакумэнтах, маючых характар зьдзелак, тады,—як Раённыя Выканаўчыя Камітэты зусім не павінны сьведчыць сапраўднасьць подпісаў на заявах і другіх якіх-небудзь дакумэнтах, а сельскія і местачковыя саветы могуць сьведчыць сапраўднасьць подпісаў толькі на заявах, позвах і другіх дакумэнтах, ня маючых характару зьдзелак.

З прычыны гэтага Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Ўнутраных Спраў паказваюць Раённым Выканаўчым Камітэтам, сельскім і местачковым саветам, што гэтыя дзеяньні пры выкананьні імі некаторых натарыяльных функцый, не ўваходзяць у кола іх абавязкаў і што сельскія і местачковыя саветы абавязаны прымаць да засьведчаньня толькі дакумэнты, паказаньня ў арт. 1 паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК за 5 сакавіка 1926 г., а Раённыя Выканаўчыя Камітэты сьведчаць зьдзелкі, якія паказаны ў арт. 3 гэтай пастановы.

Пры выкананьні натарыяльных дзеяньняў, Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы павінны строга няўхільна захоўваць вымаганьні, якія ўстаноўлены пастановай ЦВК

і СНК за 5 сакавіка 1926 г., пры незахаваньні-ж гэтых вымаганьняў вінаватыя службовыя асобы будуць прыцягнуты да адказнасьці, у залежнасьці ад акалічнасьцяй, па 105 або 108 арт. Крымінальнага Кодэксу.

Разам з гэтым, прымаючы пад увагу непадрыхтаванасьць Раённых Выканаўчых Камітэтаў, сельскіх і местачковых саветаў да выкананьня натарыяльных дзеяньняў, апошнія павінны зварочвацца за растлумачэньнем па няясных і малазразумелых для іх пытаньнях, якія ўзьнікаюць пры выкананьні натарыяльных дзеяньняў, да таго натарыуса або народнага судзьдзі, які знаходзіцца бліжэй, або да якога больш выгадна зварочвацца ў кожным паасобным выпадку.

Натарыусы і Народныя Судзьдзі абавязаны рабіць зварочваючымся да іх службовым асобам Раён. Вык. Камітэтаў і сельскіх саветаў дапамогу пры разьвязаньні паасобных пытаньняў, якія ўзьнікаюць у іх натарыяльнай практыцы.

Апрача гэтага, натарыусы і Народныя Судзьдзі пры службовых выездах у раёны, без асобных упаўнаважанасьцяй, а толькі па прад'яўленьні сваіх службовых пасьведчаньняў, павінны праводзіць абсьледаваньні і інструктаваньне Раённых Выканаўчых Камітэтаў і сельскіх саветаў, выконваючых натарыяльныя дзеяньні у парадку пастановы ЦВК і СНК за 5 сакавіка 1926 г. і інструкцыі па дапасаваньню гэтай пастановы (З. З. БССР № 12, арт. 45, і Бюлетэнь СНК № 7 (16) 1926 г.). Аб усіх парушэньнях, якія будуць выяўлены, павінна быць коратка выкладзена ў акце рэвізіі разам з кіраўнічымі паказаньнямі і растлумачэньнямі, пры чым першы экзэмпляр акту павінен захоўвацца ў абрэвізаваным Раённым Выканаўчым Камітэце або сельскім савеце, а другі паслан у сямідзённы тэрмін, які лічыцца з дню абсьледаваньня, у адпаведны Акруговы Суд для праверкі правільнасьці таго, што было растлумачана Раённым Выканаўчым Камітэтам, местачковым і сельскім саветам у часьці, якая тычыцца натарыяльных дзеяньняў.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі БССР **М. Сегаль.**

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР **Е. Кроль.**

Член Калегіі Народнага Камісарыяту
Юстыцыі БССР **І. Эднэрал.**

НКЮ: № 3 за 12 студзеня 1927 г.
НКУС: № 14825 за 16 сьнежня 1926 г.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ АПЛАЦЕ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ АБАВЯЗНАСЬЦЯЙ ГРАМАДЗЯН НА ІМЯ Н. К. ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ АБ ДАЗВОЛЕ ЎЕЗДУ З-ЗА ГРАНІЦЫ Ў БССР ІХ РОДЗІЧАМ.

*Акруговым Судом і Натарыяльным Канторам.*

Народны Камісарыят Юстыцыі, па згадджэньні з Народным Камісарыятам Грашовых Спраў, растлумачвае Натарыяльным Канторам, што абавязнасьці грамадзян узяць на ўтрыманьне сваіх родзічаў па прыезьдзе іх з-за граніцы ў БССР, якія выдаюцца на імя ўпаўнаважанага Н. К. Замежных Спраў, хоць і прадстаўляюць сабою адна-

бокія абавязнасьці, але аплачваць іх гэрбавым і натарыяльным зборамі, як дагаворы на нязначную суму, нельга, бо па сутнасьці сваёй яны зьяўляюцца нічым іншым, як падпіскамі, выданымі пасобнымі грамадзянамі ўрадавай установе аб тым, што выпісаныя з-за граніцы родзічы іх ня будуць зварочвацца за сацыяльнай дапамогай да Дзяржавы.

Абавязнасьці (падпіскі) павінны аплачвацца гэрбавым зборам, згодна літары „а“ пункту 17, 40 Падр. Пераліку гэрбавага статуту, ў 1 р. 65 к., а ў адносінах аплаты іх натарыяльным зборам яны падыходзяць пад п. „а“ арт. 13 таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў і павінны аплачвацца натарыяльным зборам у разьмеры 5 руб.

Гэтакія абавязнасьці (падпіскі) не падлягаюць дадатковай аплаце гэрбавым і натарыяльным зборамі.

Распараджэньні, якія былі дадзены да гэтага часу па натарыяту (10 кастрычніка і 9 сьнежня 1925 г. №№ 1163 і 1226) з выданьнем гэтага абежніку скасоўваюцца.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль.**

Член Калегіі Народнага Камісарыяту
Юстыцыі БССР **І. Эднэрал.**

12 студзеня 1927 г.
№ 4.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ УЗМАЦНЕНЬНІ СЕЛЬСКІХ І ГАРАДЗКІХ ПАЖАРНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ ПРАЗ УЗАЕМНУЮ ДАПАМОГУ.

*Акр. Аддзелам Камунальнай Гаспадаркі і Камунальна-дарожным часткам Раённых Выканаўчых Камітэтаў.*

*Копіі: Акруговым Выканаўчым Камітэтам.*

У мэтах пашырэньня супроцьпажарных мер пры навальных пажарах, Народны Камісарыят Унутраных Спраў па Кіраўніцтву Камунальнае Гаспадаркі для ўзмацненьня баявой сілы сельскіх і гарадзкіх пажарных арганізацый праз больш шырокае ўжываньне ўзаемнай дапамогі бліжэйшых пажарных арганізацый прапануе правесьці ў жыцьце наступнае:

1. Па ўсёй тэрыторыі БССР для ўсіх пажарных арганізацый устанавіць арыентыровачны радыус узаемнага абслугоўваньня і ўзаемнай дапамогі ў 10 вёрст ад месца пажару.

2. Усе пажарныя арганізацыі, якія знаходзяцца ад месца пажару ў радыусе 10 вёрст, павінны тэрмінова выяжджаць у загарэўшыйся населены пункт для дапамогі ў тушэньні пажару.

3. Для пажарных арганізацый, якія могуць прыбыць к месцу пажару толькі па чыгунцы, радыус узаемнай дапамогі і абслугоўваньня не ўстанаўляецца і такія пажарныя арганізацыі выяжджаюць к месцу пажару па першаму патрабаваньню ўлады тэй мясцовасьці, дзе ўзьнік пажар.

4. Для таго, каб папярэдзіць лішнія выезды пажарных арганізацый, неабходна ўстанавіць належную сувязь паміж пажарнымі арга-

нізацыямі, скарыстоўваючы для гэтай мэты тэлефон, тэлеграф, сыгналізацыю і інш.

5. Гарадзкія і сельскія пажарныя арганізацыі, якія выяжджаюць для дапамогі ў тушэньні пажару, павінны пакідаць адпаведную і працаздольную частку пажарных арганізацый на мясцох для таго, каб забясьпечыць апошнія неабходнай пажарнай аховай на выпадак пажару.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР **Е. Кроль.**

Начальнік Кіраўніцтва Камунальнае
Гаспадаркі НКУС БССР **Г. Рубінштэйн.**

Загадчык Цэнтральнага Пажарнага Аддзелу ККГ **І. Гіндзін.**

30 студзеня 1927 г.
№ 10.

---

Зацьвярджаецца.
Старшыня Эканамічнае Нарады
пры Савеце Народных Камісараў
БССР М. Карклін.

Адказны Сэкратар Экан. Нарады
пры Сав. Нар. Кам. БССР В. Крывіцкі

## 5. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ І САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 23 КАСТРЫЧНІКА 1926 г. АБ АПЛАЦЕ ЖЫЛЫХ ПАМЯШКАНЬНЯЎ У ГАРАДОХ БССР.

На падставе арт. 21 Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23 кастрычніка 1926 г. аб аплаце жылых памяшканьняў у гарадох БССР і ў адмену выдадзенай Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР інструкцыі за 19-га кастрычніка 1925 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 6) выдаецца наступная інструкцыя аб ужываньні пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР аб аплаце жылых памяшканьняў у гарадох БССР.

### І. Агульныя паказаньні.

1. Стаўкі кватэрнай платы ўстанаўляюцца і ўводзяцца ў дзейнасьць абавязковымі пастановамі мясцовых Выканаўчых Камітэтаў з абавязковым прыцягненьнем мясцовых аб'яднаньняў прафэсіянальных Саюзаў пры распрацоўцы ставак.

2. У мясцовых абавязковых пастановах аб кватэрнай плаце павінны быць паказаны:

а) асноўная норма кватэрнай платы за адзінку жылой плошчы, вызначанай на падставе кештоўнасьці выдаткаў на эксплёатацыю і амартызацыю будынкаў (кватэрная такса);

б) кватэрныя стаўкі для карыстальнікаў памяшканьняў; яны ўстанаўляюцца на падставах кватэрнай таксы, аплаты процантаў на каштоўнасьць будынку і прыстасаваньня льгот для розных катэго-

рый жыльцоў, згодна пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23/X—1926 г.;

в) парадак вылічэньня кватэрнай платы ў залежнасьці ад складу сям'і, лішкаў плошчы і іншых акалічнасьцяй, якія прадугледжаны гэтай інструкцыяй.

## II. Кватэрная такса.

3. Па кожнаму гораду ўстанаўляецца адна асноўная норма кватэрнай платы (кватэрная такса) за адзінку жылой плошчы. Для гораду Менску гэтая такса ўстаноўлена ў 1 р. 70 кап. на месяц за адзін кв. саж., а для іншых гарадоў яна ўстанаўляецца ў залежнасьці ад мясцовых умоў, але ня звыш як 1 р. 60 к. за кв. саж.

4. Асноўная такса за адзінку жылой плошчы ўстанаўляецца ня звыш таксы, паказанай у арт. 3 гэтай інструкцыі, з прыняцьцем пад увагу ўсіх выдатковых артыкулаў дамовага бюджэту пры правільнай пастаноўцы экспләатацыі і амартызацыі дому.

5. Да выдатковых артыкулаў (арт. 4) адносяцца: 1) бягучы рамонт, 2) капітальны рамонт, 3) амартызацыя, 4) страхаваньне, 5) ачыстка рэтырад і памыйных ям, 6) вываз сьнегу, 7) вываз бруду і сьмецьця, 8) ачыстка камінoў, 9) папраўка тратуараў, 10) наём дворнікаў, 11) выдаткі на начнога вартаўніка, 12) кіраваньне, 13) розныя дробныя выдаткі, 14) асноўная зямельная рэнта, 15) дадатковая зямельная рэнта, 16) падатак з будынку.

6. Паказаны ў папярэднім артыкуле разьлік дамовага бюджэту праводзіцца ў паасобку для мураваных, драўляных і зьмешаных будынкаў, а пасьля гэтага, прымаючы пад увагу суадносіны ўсяе кубатуры кожнага віду будынкаў у горадзе, вызначаецца сярэдні для даннага гораду бюджэт і сярэдняя каштоўнасьць утрыманьня адзінкі плошчы.

*Увага.* Арыентыровачнае вылічэньне каштоўнасьці экспләатацыі і амартызацыі 1-го кв. саж. жылой плошчы муραванага дому паказана ў дадатку да гэтай інструкцыі.

7. Для вызначанай памянёным вышэй спосабам сярэдняй кватэрнай платы (кватэрнай таксы) устанаўляюцца наступныя скідкі:

а) для раёнаў, якія знаходзяцца далёка ад цэнтру гораду—ня звыш 10 проц.;

б) пры адсутнасьці ў кватэры вадаправоду--ня звыш 10 проц.

Калі будзе ўстаноўлена скідка па адлегласьці, Выканаўчыя Камітэты павінны паказаць ў сваіх пастановах раёны, для якіх вызначана скідка. Скідка даецца толькі тады, калі ў даннай кватэры адсутнічае вадаправод, а ў іншых кватэрах ці данных домаўладаньнях гораду ён ёсьць.

Сума памянёных вышэй скідак адлічаецца з асноўнай кватэрнай таксы, устаноўленай для даннага гораду.

8. Апрача вышэйазначаных скідак устанаўляюцца скідкі з асноўнай кватэрнай таксы для наступных памяшканьняў:

а) за цёмныя пакоі, якія ня маюць знадворнага асьвятленьня, скідка ў 50 проц.;

б) за паўсутарэньні, г. зн. тыя памяшканьні, у якіх падлога ніжэй узроўню вуліцы менш чым 0,53 мэтру, скідка 50 проц.; за сутарэньні, у якіх падлога ніжэй узроўню вуліцы на 0,53 мэтру і больш, скідка 75 проц.;

в) за вышкавыя памяшканьні, у так званых мансардах—скідка 50 проц.;

г) праходныя пакоі, якія зьўляюцца адзіным спосабам зносін паміж другімі пакоямі даннай кватэры і выхадам на вуліцу, а таксама з месцамі агульнага карыстаньня (прыбіральняй, кухняй), аплачваюцца: 1) калі памянёныя пакоі заняты асобамі, якія зьяўляюцца рабочнымі для іншых жыльцоў той-жа кватэры,—у разьмеры палавіны ўстаноўленай кватэрнай таксы; 2) калі памянёнымі пакоямі карыстаюцца ўсе жыльцы даннай кватэры—у размеры $^2/_3$ таксы;

д) у адрозьніваньне ад скідак, якія даюцца на адлегласьць ад цэнтру гораду і адсутнасьць вадаправоду (арт 7), скідкі, прадугледжаныя гэтым артыкулам, вылічаюцца не агульнай сумай, а ў паступовым парадку, напрыклад, за пакой, за які плата па таксе выходзіць 1 р. 20 кап. за 1 кв. саж., калі гэты пакой цёмны і пры гэтым праходны, плата вылічаецца па наступнаму падрахунку:

1 р. 20 к. $\times$ (100% — 50%) = 60 кап.

60 к. $\times$ $^2/_3$ = 40 кап.

*Увага.* Кватэрная такса за 1 кв. саж. павінна быць ня ніжэй 25 кап., хоць-бы пасьля ўсіх скідак, якія дапушчаюцца арт. арт. 7 і 8 гэтай інструкцыі, яе разьмер і вызначаўся ніжэй, чым 25 к. за 1 кв. саж.

## III. Стаўкі кватэрнай платы.

### А. СТАЎКІ ДЛЯ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ.

9. Да рабочых і служачых адносяцца толькі асобы, якія працуюць па найму. Факт працы па найму пасьвядчаецца разьліковай кніжкай альбо іншымі адпаведнымі дакумэнтамі, напрыклад, членскай кніжкай праф. саюзу.

10. Разьмер скідак з кватэрнай таксы і надбавак да яе даклада ўстаноўлены арт. арт. 2 і 3 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23/X—1926 г. і ня могуць быць зьменены мясцовымі абавязковымі пастановамі.

Пры вызначэньні разьмераў кватэрнай платы неабходна мець на ўвазе, што кватэрная стаўка ня можа быць менш, як 25 кап. за 1 кв. саж.; калі пры вылічэньні выявіцца, што сума выйшла ніжэй як 25 кап., дык стаўка ўстанаўляецца ў 25 кап. за 1 кв. саж. Напрыклад, калі кватэрная такса ўстаноўлена ў 1 р. за 1 кв. саж., тады кватэрныя стаўкі выяўяцца ў наступным відзе:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Для зарабляючых | менш 20 руб. | скідка | 85 % | —15 кап. |
| „ „ | ад 20 да 30 | „ „ | 80 % | — 20 „ |
| „ „ | ад 31 да 40 | „ „ | 75 % | — 25 „ |
| „ „ | ад 41 да 50 | „ „ | 70 % | — 30 „ |

У такім выпадку стаўкі для зарабляючых да 40 руб. павінны быць аднолькавыя—25 кап. за 1 кв. саж., а для зарабляючых звыш 40 руб. будзе падвышэньне.

11. Пры вызначэньні кватэрных ставак з рабочых і служачых падлічаецца толькі той заработак, які атрымліваецца за працу ў нармальны працоўны дзень (8 гадзін для фізычнай працы, 6 гадзін для разумовай і канцылярскай працы і 4-х гадзінны працоўны дзень для пэдагагічнага пэрсаналю), незалежна ад таго, ці яны працуюць ва ўстаноўлены час, ці зьдзельна. Калі платнік працуе ва ўстаноўлены

час у некалькіх прадпрыемствах, або ўстановах (сумяшчальнасьць) стаўка кватэрнай платы вылічаецца па суме ўзнагароды, якая атрымліваецца платнікам ва ўсіх установах. Сумяшчальнасьцю ня лічыцца праца па найму, якая праводзіцца хоць і ў другім прадпрыемстве, або ўстанове, але не ва ўстаноўлены час, ці ў сябе дома, у тым выпадку, калі асобы заняты па асноўнай пасадзе ўвесь устаноўлены час. Плата за працу, якая праводзіцца ў вызначаным парадку, ня прымаецца ў падрахунак пры вылічэньні кватэрнай платы.

Стаўкі кватэрнай платы з вайсковых служачых вылічаюцца толькі з асноўнага акладу, які атрымліваецца імі па тарыфнай сетцы.

## Б. СТАЎКІ ДЛЯ АСОБ, ЯКІЯ ПРЫРОЎНЕНЫ ДА РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ.

12. Дзяржаўныя пэнсіянэры, якія атрымліваюць пэрсанальную пэнсію і пэнсіянэры Сац. Страхаваньня, у выпадку, калі яны атрымліваюць больш 20 руб. на месяц, аплачваюць памяшканьні, як рабочыя і служачыя ў адпаведнасьці з разьмерам атрымліваемай пэнсіянэрамі пэнсіі.

13. Інваліды і інш. асобы, якія маюць права на сацыяльнае забесьпячэньне, каторым замест пэнсіі дадзена права гандляваць на льготных умовах, аплачваюць памяшканьні: а) гандлюючыя па патэнтах 1-га разряду, як рабочыя, зарабляючыя 30 руб. на месяц і б) ґандлюючыя па патэнтах 2-га разраду—як рабочыя, зарабляючыя да 50-ці руб. на месяц.

14. Вучні Дзяржаўных вучэбных установаў, якія атрымліваюць дзяржаўную стыпэндыю, альбо якія вызвалены ад платы за навучаньне, аплачваюць памяшканьні як рабочыя, зарабляючыя да 20 р. на месяц.

Вучні, якія атрымліваюць стыпэндыю не дзяржаўную, а ад прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, аплачваюць памяшканьні ў адпаведнасьці з разьмерам стыпэндыі па тарыфу, устаноўленаму для рабочых і служачых.

Вучні, якія не атрымліваюць стыпэндыі і не вызвалены ад платы за навучаньне, калі яны знаходзяцца на чым-небудзь утрыманьні і жывуць асобна, плацяць як утрыманцы (арт. 24). Вучні, якія маюць самастойны заработак, плацяць за памяшканьні ў адпаведнасьці з сваім заработкам па стаўцы для рабочых і служачых.

## В. СТАЎКІ ДЛЯ САМАТУЖНІКАЎ І РАМЕСЬНІКАЎ.

15. Да саматужнікаў і рамесьнікаў, якія карыстаюцца льготамі па аплаце памяшканьняў паводле арт. арт. 8, 9 і 10 Паста ові Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23/Х—1926 г., адносяцца тыя асобы, якія маюць ня больш 3-х рабочых; але калі яны маюць больш 3-х наёмных рабочых, яны аплачваюць памяшканьні, як асобы непрацоўных катэгорый.

Наяўнасьць вучняў, незалежна ад іх ліку, ня можа зьмяняць ставак кватэрнай платы.

16. Стаўкі для рамесьнікаў і саматужнікаў устанаўляюцца ў залежнасьці ад іх прыбыткаў, з прычыны чаго ў абавязковых пастановах павінны быць паказаны для кожнай катэгорыі іх паасобныя стаўкі па атрымліваемых імі прыбытках, як гэта зроблена для рабочых і служачых, напрыклад: для саматужнікаў, ня маючых нанятых рабочых і атрымліваючых ня звыш як 700 рублёў на год, будзе:

1. Для атрымліваючых да 500 р. —1 р. 00 к. за кв. саж.
2. „ „ „ 600 „ —1 „ 10 к. „
3. „ „ „ 700 „ —1 „ 25 к. „

Такім-жа парадкам устанаўляюцца стаўкі і для іншых катэгорый саматужнікаў і рамесьнікаў (арт. арт. 9 і 10 пастановы ЦВК і СНК за 23/X 1926 г).

17. Рамесьнікі і саматужнікі, якія маюць аднаго рабочага і зарабляюць ня менш як 700 руб. на год, аплачваюць памяшканьні па 1 р. 25 кап. за 1 кв. саж.

## Г. СТАЎКІ ДЛЯ АСОБ ВОЛЬНЫХ ПРАФЭСІЙ.

18. Да катэгорыі асоб вольных прафэсій адносяцца: дактары мэдыцынскія і вэтэрынарныя і іншыя мэдыцынскія працаўнікі (фэльчары, акушэркі, масажысткі і інш.), члены калегіі абаронцаў, інжэнэры, літаратары, мастакі, біржавыя макляры і, наогул, асобы, якія набываюць сродкі для існаваньня ня як наёмныя працаўнікі, а праз паслугі ў якасьці паасобнай працы.

Да гэтай катэгорыі адносяцца таксама і служыцелі рэлігійных культаў.

Калі асобы вольнай прафэсіі маюць спэцыяльныя ўстановы (напрыкл.: лячэбніцу, тэхнічную кантору, юрыдычнае бюро), яны аплачваюць памяшканьні як катэгорыі прадпрыемцаў, гэта значыць, як непрацоўны элемэнт. Асобы, якія займаюцца спэцыяльнай разумовай працай (дактары, юрысты, інжэнэры) і знаходзяцца на дзяржаўнай альбо грамадзкай пасадзе—аплачваюць памяшканьні па стаўках служачых нават і ў тым выпадку, калі яны маюць дадатковы заработак, але, калі гэты заработак за папярэдняе паўгода не перавышае прыбытку, які ён атрымаў за той-жа час па заработнай плаце. У гэтым выпадку дадатковы заработак залічаецца ў агульную суму заработку, з якога і вылічаецца кватэрная плата на падставах, якія ўстаноўлены для рабочых і служачых. Калі-ж заработак ад вольнай практыкі перавышае заработную плату, кватэрная плата ўстанаўляецца як для асобы вольнай прафэсіі, прымаючы пад увагу ўсю суму заработку ад вольнай практыкі і ад працы па пасадзе.

*Увага.* Маладыя дактары, якія працуюць у клініках, альбо ў лекавых установах вызначаны Народным Камісарыятам Працы час для атрыманьня практычнага стажу (экстэрны, стажэры, звыш-штатныя ардынатары і г. д.), аплачваюць жылую плошчу як вучні; а тыя асобы, якія камандыраваны для падвышэньня свае кваліфікацыі акруговымі аддзеламі аховы здароўя, аплачваюць жылую плошчу, як Дзяржаўныя стыпэндыяты.

19. Для асоб вольных прафэсій, якія ня плацяць прыбытковага падатку, кватэрная стаўка ўстанаўляецца ў разьмеры кватэрнай таксы (сабекаштоўнасьць). Для асоб, якія плацяць прыбытковы падатак, за кожныя 100 руб. звыш неабкладаемага мінімуму гадовага прыбытку, набаўляецца да кватэрнай таксы 25 кап. за 1 кв. саж. з такім падрахункам, каб найвышэйшая стаўка была ня больш, як 5 руб. за 1 кв. саж. на месяц.

20. Асобы, для якіх крыніцай заработку служыць некваліфікаваная штодзённая альбо зьдзельная праца (дравакольы, пільшчыкі, чорнарабочыя і інш.) па аплаце памяшканьняў прыроўніваюцца да саматужнікаў і рамесьнікаў, якія зарабляюць ня звыш 700 руб. на год (арт. 8 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/X—1926 г.)

## Д. СТАЎКІ ДЛЯ ГАНДЛЯРОЎ І ІНШЫХ АСОБ НЕПРАЦОЎНЫХ КАТЭГОРЫЙ.

21. Да асоб непрацоўных катэгорый адносяцца: уласьнікі і саўласьнікі, арандатары, пайшчыкі альбо ўкладчыкі гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў (за выключэньнем саматужных і рамесных прадпрыемстваў з лікам рабочых ня звыш 3-х); наогул, асобы, якія займаюцца гандлем, падрадамі, пастаўкамі, пасрэдніцтвам, маклярскімі, біржавымі і інш. падобнымі апэрацыямі (апрача макляроў фондавых і таварных бірж); асобы, якія пражываюць выключна на прыбыткі ад грашовых капіталаў і процантных папер; асобы, якія арандуюць маемасьць у гарадох для гандлёвай эксплёатацыі; усе іншыя асобы, якія атрымліваюць прыбыткі ад уласнай маемасьці, ад прадпрыемскай дзейнасьці і інш. непрацоўных крыніц, не прадугледжаных гэтым артыкулам.

22. Для асоб, якія гандлююць па патэнту 2-га разраду, а таксама, якія выбіраюць прамысловыя патэнты 1-га разраду, кватэрная плата ўстанаўляецца па ніжэйшай стаўцы, чым тая, якая вызначана арт. 12 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23/X 1926 г. і ўвагай 1-й да гэтага артыкулу.

23. Для іншых катэгорый непрацоўнага элемэнту, апрача тых, якія вызначаны ва ўвазе 2-й арт. 12 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР 23/X 1926 г, і ў п. 22 гэтай інструкцыі мясцовыя Выканаўчыя Камітэты ўстанаўляюць найвышэйшыя стаўкі кватэрнай платы ў залежнасьці ад мясцовых умоў і прыбытку асоб, маючы на ўвазе, каб гэтыя стаўкі не перавышалі абмежаваных ставак, вызначаных у арт 12 памянёнай пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР.

Кватэрная плата для асоб непрацоўных катэгорый (апрача асоб, якія маюць гандлёвыя патэнты 1-га і 2-га разрадаў і прамысловыя патэнты 1-га разраду) устанаўляюцца па згодзе з домакіраўніцтвамі.

## Е. СТАЎКІ ДЛЯ ЎТРЫМАНЦАЎ.

24. Утрыманцы, якія жывуць асобна, плацяць за займаемыя імі памяшканьні:

а) калі яны знаходзяцца на ўтрыманьні рабочых ці служачых, яны плацяць па стаўках рабочых і служачых,—з падрахунку ня звыш 25% заработку асобы, на ўтрыманьні якой яны знаходзяцца;

б) калі яны знаходзяцца на ўтрыманьні саматужнікаў, рамесьнікаў, асоб вольных прафэсій, а таксама і асоб непрацоўнага элемэнту—у разьмеры ня звыш 25 проц. кватэрнай стаўкі асобы, на ўтрыманьні якой яны знаходзяцца.

## IV. Парадак вылічэньня кватэрнай платы.

25. Разьлік кватэрнай платы робіцца домакіраўніцтвам, домаўласьнікам, альбо арандатарам дому па пакоях, адпаведна жылой плошчы. Кухні, перадпакоі, калідоры, прыбіральні, ванныя і т. п. карысная, але няжылая плошча ў падрахунак ня прымаецца. Таксама ня ўключаюцца ў жылую плошчу часьці сьцен, пячэй (галяндак, расейскіх і інш.) і іншыя часьці абагравальных збудаваньняў, якія выступаюць у пакоях і ня могуць перасоўвацца.

*Увага.* Калі кухня займаецца жыльцамі, як жылы пакой і не скарыстоўваецца іншымі жыльцамі гэтай кватэры, дык яна аплачваецца ў разьмеры 3/4 нармальнага тарыфу.

26. Кладоўкі, адрыны для дроў, скляпы і іншыя службовыя памяшканьні, якія скарыстоўваюцца жыльцамі выключна для хатніх патрэб, асобна не аплачваюцца.

27. Кватэрная плата ўносіцца наймальнікам за ўсю кватэру (гэта значыцца і за пакоі, якія здаюцца ім у суб'арэнду, арт. 168 Грам. Кодэксу), домакіраўніцтву, домаўласьніку, альбо арандатару. Пры гэтым плата за памяшканьні, здадзеныя ў суб'арэнду, вылічаецца па сацыяльнаму становішчу суб'арандатараў.

28. За няўзнос кватэрнай платы ў тэрміны, якія ўстаноўлены арт. 16 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23/X—1926 г. спаганяецца пеня ў разьмеры, паказаным у пастанове ЦВК і СНК БССР за 29 мая 1926 г. (З. З. БССР 1926 г. № 21, арт. 80).

*Увага.* За несваечасовае ўнясеньне кватэрнай платы рабочымі і служачымі, а таксама асобамі, якія знаходзяцца на сацыяльным забесьпячэньні, з прычыны несваечасовага атрыманьня імі заработнай платы, пэнсіі, альбо дапамогі, прылічэньне пені і высяленьне ня ўжываюцца.

29. Хатнія працаўнікі, якія працуюць у сям'і, адносна аплаты памяшканьняў залічаюцца ў члены сям'і, як ўтрыманцы наймальніка.

30. Плата за пакой, заняты некалькімі асобамі, якія не належаць да аднэй сям'і, вылічаецца па стаўках тых катэгорый, да якіх адносяцца данныя асобы па свайму заработку, пры гэтым кожны з такіх жыльцоў лічыцца як-бы займаючым аднолькавую часьць гэтага пакою.

31. Для дачы льгот па аплаце за памяшканьні асобам, якія вызначаны ў арт. 6-м пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23/X 1926 г. аб аплаце жылых памяшканьняў, павінны быць прадстаўлены адпаведныя пасьведчаньні: асобамі, якія знаходзяцца на сацыяльным забесьпячэньні— ад Аддзелу Сацыяльнага Забесьпячэньня; вучнямі—дзяржаўнымі стыпэндыятамі альбо вызваленымі ад платы за вучэньне—ад адміністрацыі вучэбнай установы; беспрацоўныя, якія атрымліваюць дапамогу ад Страхкассы—прадстаўляюць свае кніжкі, альбо білет прафсаюзу з адзнакай аб беспрацоўі; дзяржаўныя пэнсіянэры прадстаўляюць свае кніжкі, па якіх яны атрымліваюць пэнсію. Сем'і чырвонаармейцаў прадстаўляюць: аб знахаджэньні ў арміі члена сям'і, на ўтрыманьні якога яны знаходзяцца,—пасьведчаньне ад адпаведнай вайсковай часьці, а аб тым, што гэтыя сем'і знаходзіліся да заклiку на вайсковую службу чырвонаармейца на яго ўтрыманьні і аб тым, што яны ня маюць самастойных крыніц прыбыткаў—пасьведчаньне ад міліцыі.

32. Разьмер заработнай платы рабочых і служачых вызначаецца домакіраўніцтвамі па разьліковых кніжках, альбо па спэцыяльных пасьведчаньнях, якія выдаюцца прадпрыемствамі і ўстановамі.

33. Разьмер прыбытку асоб непрацоўных катэгорый, асоб вольных прафэсій, саматужнікаў і рамесьнікаў вызначаецца па даведках органаў Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў за папярэдняе паўгодзьдзе. Платніку даецца права ўносіць папраўкі да вызначанага разьмеру кватэрнай платы, пры гэтым домакіраўніцтва павінна прымаць пад увагу толькі тыя папраўкі, якія зьяўляюцца абгрунтаванымі.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Начальнік Кіраўніцтва Камунальнай
Гаспадаркі НКУС БССР **Г. Рубінштэйн.**

31 студзеня 1927 г.

Дадатак да арт. 6 Інструкцыі.

АРЫЕНТЫРОВАЧНАЕ ВЫЛІЧЭНЬНЕ КАШТОЎНАСЬЦІ ЭКСПЛЁАТАЦЫІ І АМАРТЫЗАЦЫІ 1 КВ САЖ. ЖЫЛОЙ ПЛОШЧЫ.

ТАБЛІЦА 1-ая

Колькасьць матар'ялаў і рабочых для вызначэньня па існуючых цэнах каштоўнасьці 1 куб. мэтру драўлянага і мураванага будынкаў (што таксама раўняецца каштоўнасьці сярэдняга рамонту 10 куб. мэтраў памянёных будынкаў).

| Колькасьць матар'ялаў патрэбная на 1 куб. мэтр драўляных будынкаў | | | |
|---|---|---|---|
| Назва матар'ялаў | Кольк-касьць | Цана | Каштоўнасьць |
| 1. Цэглы шт . . . | 12,356 | | |
| 2. Цэманту клгр . . | 0.843 | | |
| 3. Вапны . . . . . | 3,373 | | |
| 4. Алябастру . . . | 1,687 | | |
| 5. Крэйды . . . . . | 0 ,219 | | |
| 6. Жалеза гатункоў | 0.422 | | |
| 7. Ляснога матар'ялу куб. мэтр . | 0,277 | | |
| 8. Пакосту клгр . . | 0,169 | | |
| 9. Фарбы клгр . . . | 0.135 | | |
| 10. Пакульля клгр . | 0,506 | | |
| 11. Лямцу „ . . | 0,169 | | |
| 12. Шкла скрынак . | 0,003 | | |
| 13. Жалеза дахав. клг | 1,518 | | |
| 14. Гваздоў клгр . . | 0,337 | | |
| 15. Прыладу пячнога камплектаў . . . | 0,085 | | |
| 16. Прыладаўда вокан і дзьвярэй, камплектаў . . . | 0,093 | | |
| 17. Рабочых розн . . | 2,368 | | |
| 18. На падрыхтоўчыя работы і струмэнты 6% ад каштоўнасьці 1 куб. мэтру . . | | | |
| 19. Тэхнічны нагляд 4% ад каштоўнасьці 1 куб. м. | | | |
| 20. Страхкаса і інш 23% ад рабочай сілы . . . . . | | | |
| Усяго кошт 1 куб мэтру . . . | | | |

| Колькасьць матар'ялаў патрэбная на 1 куб. мэтр мураваных будынкаў | | | |
|---|---|---|---|
| Назва матар'ялаў | Кольк-касьць | Цана | Каштоўнасьць |
| 1. Цэглы шт . . . | 77,224 | | |
| 2. Цэманту клгр . . | | | |
| I норма . . . | 1.687 | | |
| II „ . . . | 16 869 | | |
| 3. Вапны 1 норма . | 30,360 | | |
| „ 2 „ . . | 10 120 | | |
| 4. Алябастру клгр . | 3.373 | | |
| 5. Крэйды клгр . . | 0.219 | | |
| 6. Жалеза гатунк . | 0.337 | | |
| 7. Ляснога мат. кб. м. | 0'117 | | |
| 8 Пакосту клгр . . | 0'135 | | |
| 9. Фарбы „ . . | 0'135 | | |
| 10. Пакульля „ . . | 0,084 | | |
| 11. Лямцу » . . | 0.034 | | |
| 12. Шкла скрынак . | 0,002 | | |
| 13. Жалеза дах клгр | 1.349 | | |
| 14. Гваздоў клгр . . | 0.253 | | |
| 15. Прыладу пячнога кампл . . . . . | 0.085 | | |
| 16 Прыладаў да вокан і дзьвярэй кампл . . . . . | 0,093 | | |
| 17. Рабочых розн . . | 3.192 | | |
| 18. На падрыхтоўчыя работы і струмэнты 6%, ад 1 каштоўнасьці куб мэтру . . . | | | |
| 19. Тэхнічны нагляд 4% ад каштоўнасьці 1 кб. мэт . | — | | |
| 20. Страхкаса і інш 23% ад рабочай сілы . . . . . | — | | |
| Усяго кошт 1 кб мэт. пры 1 норме | | | |
| „ „ » » 2 | | | |

(Каштоўнасьць 1 куб. сажня=каштоўнасьці 1 куб. мэтру×на 4,55).

*Увага.* Для вылічэньня цаны рабочага дню (п. 17) падлічваецца сума штодзеннай заработнай платы, нескарыстанага водпуску, перадсьвяточных дзён і амартызацыі струмэнту як для

простага рабочага цяжкай працы гэтак і для кваліфікаванага рабочага; атрыманыя сумы (як для простага рабочага цяжкай працы, гэтак і для кваліфікаванага) складаюцца і дзеляцца на 2. Атрыманая лічба пакажа цану рабочага дню.

---

ТАБЛІЦА № 2.

## Нармальны разьлік дамовага бюджэту для мураваных дамоў.

| Назва выдаткаў дамовага бюджэту | Норма выдаткаў на год — %/% аднос. будаўнічай каштоўнасьці дамаўладаньня на 1 кв. сажань жылое плошчы, вылічаной па табл. № 1 | Норма выд. на м-ц — %/% адносіны да ўсяго выдатку |
|---|---|---|
| | Проц. | Проц. |
| 1. Бягучы рамонт . . | 1,00 | 21,9 |
| 2. Капітальны рамонт і амартызацыя . . | 1,33 | 45,9 |
| 3. Страхаваньне .. . | 0,13 | 3,8 |
| 4. Вычыстка рэтырад і памыйных ям . . . | 0,11 | 3,2 |
| 5. Вываз сьнегу, бруду і сьмецьця . . . | 0,05 | 1,4 |
| 6. Вычыстка каміноў . | 0,03 | 0,9 |
| 7. Папраўка тратуараў . | 0,13 | 3,8 |
| 8. Найм дворніка . | 0,31 | 9,0 |
| 9. Выдаткі на начнога вартаўніка . . . | 0,08 | 2,3 |
| 10. Кіраваньне . . . | 0,20 | 5,9 |
| 11. Дробныя выдаткі . . | 0,02 | 0,6 |
| 12. Рэнта асноўная . . } 13. „ дадатковая . } | 0,05 | 1,3 |
| 14. Падатак на будынкі . | — | — |
| Разам . . | 3,44 | 100 |

Вызначаны ў табліцы № 2 разьлік дамовага бюджэту тычыцца мураванага дому, які знаходзіцца ў гарадох з колькасьцю насяленьня звыш 40.000; аднак гэты разьлік можа ўжывацца і да драўляных дамоў, таксама і ў меншых гарадох з тым, што адкідаюцца адпаведныя артыкулы выдаткаў, як: на начнога вартаўніка, дворніка, вываз сьнегу, рэнту і інш.

Парадак вылічэньня каштоўнасьці ўтрыманьня дамоў наступны:

1) Па табліцы № 1 вызначаецца каштоўнасьць 1 кубічн. мэтру мураванага ці драўлянага дому па знадворнаму памеру, пры гэтым: а) каштоўнасьць вызначаных у табліцы матар'ялаў і рабочай сілы вылічаецца па мясцовых справачных цэнах; б) вышыня кожнага паверху прымаецца ў 4 мэтры; в) для вызначэньня каштоўнасьці 1 кв. мэтру трэба каштоўнасьць 1 куб. мэтру памножыць на 4, а для вызначэньня каштоўнасьці 1 кв. саж. трэба атрыманую вышэй суму памножыць на 4,55.

2) Па вызначэньні паводле п. 1 каштоўнасьці 1 кв. саж. жылой плошчы трэба вылічыць, згодна табліцы 2, каштоўнасьць на 1 кв. саж. на 1 год, а потым на 1 месяц; напрыклад: каштоўнасьць 1 кв. саж. драўлянага дому па табл. № 1 вылічана ў 482 р., адсутнічаюць выдаткі па вывозу сьнегу, на найм дворніка і вартаўніка, тады гадовы выдатак на ўтрыманьне дому складзе: 3,44% — (0,05+0,31+ + 0,08) = 3%, што дасьць: 482 руб. : 100×3=14 руб. 46 кап. у год, а ў месяц: 14 руб. 46 кап. : 12=1 руб. 25 к.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Начальнік Кіраўніцтва Камунальнае Гаспадаркі НКУС БССР **Г. Рубінштэйн**.

Загадчык Будаўнічага Аддзелу Кіраўніцтва Камунальнае Гаспадаркі **С. Ашчэўскі-Круглік**.

---

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ ПАРАДКУ ЗАКАНЧЭНЬНЯ ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫХ СПРАЎ, ВЫКАНАНЫХ ДА 1-ГА КРАСАВІКА 1925 ГОДУ.

*Акруговым Зямельным Аддзелам.*

Прымаючы пад увагу, што ў акруговых зямельных аддзелах ёсьць значная колькасьць спраў, выкананых у натуры, але да гэтага часу належным чынам не аформленых, што гэтае зьявішча з аднаго боку не дае магчымасьці земляўпарадчым установам зьвярнуць усю сваю ўвагу на выкананьне ў плянавым парадку новых спраў, а з другога—не ствапае ў землякарыстальнікаў пачуцьця ўстойлівасьці іх землякарыстаньня,—Народны Камісарыят Земляробства, у зьмену і дапаўненьне артыкулу 1-га інструкцыі аб парадку правядзеньня выбарчага дзяржаўнага запісу землякарыстаньняў, зацьверджанай Народным Камісарыятам Земляробства 5-га жніўня 1925 году (Бюлетэнь СНК № 3—1925 г., арт. 14), прапануе да выкананьня наступнае:

1. Тыя земляўпарадчыя справы, якія канчаткова зацьверджаны да 1-га красавіка 1925 г. (тэрмін увядзеньня ў дзейнасьць новага Зямельнага Кодэксу) земляўпарадчымі ўстановамі (земляўпарадчымі нарадамі ці зямельнымі камісіямі), паўторнаму зацьверджаньню акруговымі зямельнымі камісіямі не падлягаюць.

2. Па тых земляўпарадчых справах, якія выкананы да 1-га красавіка 1925 г., але да гэтага часу канчаткова не зацьверджаны, пастановы выносяцца па спрошчанай форме, далучаемай да гэтага абежніку, у тым выпадку, калі па ім выкананы дзеяньні, праду-

гледжаныя арт. 172-м Зямельнага Кодэксу, г. зн., калі яны ўжо прыведзены ў выкананьне.

3. Па тых земляўпарадчых справах, якія закончаны да 1-га красавіка 1925 году і зацьверджаны ў парадку арт. 171-га Зямельнага Кодэксу БССР (ці арт. 189 Зямельнага Кодэксу РСФСР) зямельнымі камісіямі без унясеньня ў праэкт якіх-небудзь зьмен, але ня прыведзены ў выкананьне ў парадку арт. 172-га (190) Зямельнага Кодэксу перад вынясеньнем канчатковай пастановы Акруговай Зямельнай Камісіяй Акруговы Зямельны Аддзел пасылае землякарысталынікам праз Раённы Выканаўчы Камітэт паведамленьне аб тым, што земляўпарадчы праэкт па іх справе зацьверджан і фактычнае землякарыстаньне іх лічыцца ў межах, вызначаных земляўпарадчыкам у земляўпарадчым праэкце.

Па атрыманьні ад Раённага Выканаўчага Камітэту паведамленьня з расьпіскамі ўпаўнаважаных старон аб тым, што зьмест паведамленьня ім абвешчан, Акруговая Зямельная Камісія выносіць па справе канчатковую пастанову, прадугледжаную п. 2-м гэтага абежніку.

4. Па тых справах, у земляўпарадчыя праэкты якіх пры зацьверджаньні ў парадку арт. 171 (189) Зямельнага Кодэксу ўнесены зьмены, канчатковыя пастановы по форме, прадугледжанай арт. 2 гэтага абежніку, выносяцца пасьля прывядзеньня іх праз земляўпарадчыкаў у выкананьне (арт. 172).

5. Што-ж тычыцца спраў, выкананых пасьля 1-га красавіка 1925 году, то да канчатковага вырашэньня пытаньня аб спрашчэньні земляўпарадчага працэсу, яны зацьвярджаюцца ў парадку дзеючых палажэньняў.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў**.

Нач. Кіраўніцтва Мэліарацыі, Земляўпарадкаваньня і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй НКЗ БССР **А. Шычко**.

Старшыня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю **Я. Лабаноўскі**.

20 студзеня 1927 г.
№ 4.

---

ДАДАТАК.

## КАНЧАТКОВАЯ ПАСТАНОВА.

192 г. ........................ дня ........................

Акруговая Зямельная Камісія ў складзе: Старшыні ........................

........................ членаў ........................

................................................

пры сэкратары ........................

пры разглядзе земляўпарадчай справы ........................

................................................

знайшла: земляўпарадчы праэкт і плян да яго, складзены земляўпарадчыкам ..........
ў 192 г. .......... дня і зацьверджан ..........
.......... Зямельнай Камісіяй ..........
..........192 г. пастановай № ..........

Праэкт прыведзен у выкананьне земляўпарадчыкам ..........
.......... 192 г. ..........

(альбо: шляхам пасылкі паведамленьня землякарыстальнікам праз Раённы Выканаўчы Камітэт—адносьнік Акруговага Зямельнага Аддзелу за № .......... за .......... 192 г. і адносьнік Раён. Вык. Камітэту за № .......... за ..........
192 .......... г.

На падставе паказанага вышэй, за землякарыстальнікамі замацавана ў межах, азначаных на пляне, колькасьць зямлі, згодна земляўпарадчага праэкту.

Прымаючы пад увагу паказанае, на грунце арт. арт. 173—175 Зямельнага Кодэксу, Зямельная Камісія пастанаўляе:

Выкананы земляўпарадчы праэкт і плян да яго канчаткова зацьвердзіць подпісамі і прыкладам пячаткі. Справу перадаць у Земляўпарадчы Пад'аддзел для занясеньня землякарыстаньня ў рэгістрацыйныя акты, выдачы дакумэнтаў землякарыстальнікам і захаваньня справы ў зямельным архіве.

Подпісы:

Старшыня

Члены:

Сэкратар

---

## 7. Абежнік Кіраўніцтва Дзяржаўных Прыбыткаў Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

### АБ АБАВЯЗКОВЫМ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ЛЯСЬНІЦТВАЎ АКРУГОВЫМІ ГРАШОВЫМІ АДДЗЕЛАМІ АБ ПАСТУПАЮЧЫХ ПЛАЦЯЖОХ ЗА АДВЕДЗЕНЫЯ ЛЕСАСЕКІ

*Акруговым Грашовым Аддзелам. копія—Лясному Кіраўніцтву Н.К. Земляробства.*

Па маючыхся ў Кіраўніцтве Дзяржаўных Прыбыткаў зьвестках, устаноўлена, што некаторыя Акр. Грашовыя Аддзелы зусім не паведамляюць лясьніцтвы аб паступаючых у гытыя Аддзелы плацяжох на пагашэньне сум, якія належаць па дагаворах за адведзеныя

лесасекі. Між тым, паводле выданых у мінулым годзе правіл прыёму лясных даходаў і вядзеньня рахункаводзтва (§ 14), Інспэкцыя дзяржаўных даходаў у дзень атрыманьня плацяжу павінна аб гэтым паведаміць льсьнічага устаноўленым для гэтае мэты паведамленьнем па форме № 4.

Лічачы такое становішча ненармальным з прычыны таго, што лясьнічы за адсутнасьцю зьвестак аб паступіўшых па тым ці іншым дагаворы плацяжох, мае права налажыць сэквэстр на лесаматар'ялы, Кіраўніцтва Дзяржаўных Прыбыткаў зноў пацьвярджае, што ўстаноўлены парадак паведамленьня лясьнічых не адменен і яго неабходна дакладна выконваць. Пагэтаму яшчэ раз напамінаецца, што аб усіх паступаючых у касу Акр. Грашовага Аддзелу сумах лясных прыбыткаў па зробленых дагаворах неабходна ў той самы дзень паведамляцьаднаведнае лясьніцтва.

Начальнік Кіраўніцтва Дзяржаўных Падаткаў Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР **М. Абрамсон**.

Загадчык Ляснога Аддзелу **Волкаў**.

7 студзеня 1927 г.
№ 4530-1.

---

## 8. Растлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАРАДКУ ЎЖЫВАНЬНЯ П. „Д„ АРТ. 148 КОДЭКСУ ЗАКОНАЎ АБ ПРАЦЫ.

Арт. 148, п. „д“ Кодэксу Законаў аб Працы прадугледжвае прыцягненьне да адміністрацыйнай адказнасьці за незахаваньне законаў і загадаў аб Працы. На гэтай падставе Народны Камісарыят Працы БССР выдаў 23/I—1925 г. (Зб. Зак. БССР 1925 г. № 17, арт. 153) і 25/XI—1926 г. пералікі законаў і загадаў аб Працы, за парушэньне якіх наймальнікі могуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасьці. На практыцы пры ўжываньні вышэй паказаных законаў і загадаў сустракаюцца выпадкі, калі органы ўлады, якія ўжываюць іх, лічаць, што пералікі Народнага Камісарыяту Працы БССР за 23/I—1925 г. і за 25/XI—1926 г. маюць вычэрпваючы характар і за іншыя парушэньні, не паказаныя ў гэтых пераліках, прыцягваць да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку ня можна.

У зьвязку з гэтым Народны Камісарыят Працы растлумачвае:

Пералікі законаў і загадаў, за парушэньне якіх наймальнікі могуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасьці, выдадзеныя Народным Камісарыятам Працы БССР 23/I 1925 г. і 25/XI—1926 г. маюць прыкладны, а ня вычэрпваючы характар.

Пры вырашэньні пытаньня аб прыцягненьні наймальніка за парушэньне законаў і загадаў аб працы да судовай ці адміністрацыйнай адказнасьці, трэба кіравацца галоўным чынам акалічнасьцямі і важнасьцю справы, у сувязі з апошнімі і накіроўваць справу ў судовым або адміністрацыйным парадку; паказанымі-ж вышэй пералікамі трэба кіравацца як прыкладнымі.

У залежнасьці ад акалічнасьцяй справы на падставе дакладнага сэнсу арт. 148 п. „д“ Кадэксу Законаў аб Працы, наймальнікі за парушэньне законаў і загадаў аб Працы могуць прыцягвацца да адказнасьці: а) у менш важных выпадках хоць-бы і не пералічаных

у сьпісах за 23/I—1925 г. і 25/XI 1926 г.—ў адміністрацыйным парадку; б) у важных выпадках (п. 2 Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 23/I—1925 г. Зб. Зак. 1925 г. № 17, арт. 153)—у судовым парадку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Аддзелу Аховы Працы НКП БССР **Н. Калінін.**

Заг. Агульнага Аддзелу НКП БССР **І. Акулаў.**

24 студзеня 1927 г.
№ 33.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30 красавіка 1926 г. № 30 ў зьмененай пастановаю НКП БССР за 30 сьнежня 1926 г. рэдакцыі

АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ ІНСТРУКЦЫІ АБ ПАРАДКУ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЯ ПРАЭКТАЎ ПА ПРАМЫСЛОВЫМ БУДАЎНІЦТВЕ Ў ЧАСТЦЫ, МАЮЧАЙ ДАЧЫНЕНЬНЕ ДА АХОВЫ ПРАЦЫ.

На падставе пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 лютага 1926 г. аб парадку зацьверджаньня праэктаў па прамысловым будаўніцтве ў частцы, маючай дачыненьне да аховы працы, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зацьвердзіць далучаемую інструкцыю па ўжываньні паказанай пастановы.

Інструкцыя па ўжываньні пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 лютага 1926 г. „аб парадку зацьверджаньня праэктаў па прамысловым будаўніцтве ў частцы, маючай дачыненьне да аховы працы“ абвешчана ў Бюлетэні СНК БССР № 3 за 1926 г.

I. Агульнае палажэньне.

1. Парадак, які ўстанаўляецца гэтай інструкцыяй, пашыраецца на пабудову, перабудаваньне і пераабсталяваньне прамысловых закладаў.

II. Прамысловае будаўніцтва.

2. Праэкты па прамысловым будаўніцтве, за выключэньнем будынкаў, належачых да Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін, ваенназабараняльных і якія знаходзяцца ў веданьні кіраўніцтва ваеннай прамысловасьці, а таксама работ, якія знаходзяцца ў веданьні Дзяржаўнага Палітычнага Кіраўніцтва (ГПУ), павінны накіроўвацца будуючай установай, аб'яднаньнем, прадпрыемствам, або асобамі пры адпаведнай заяве ў Аддзелы і камэры працы ў 1 экз.; пры гэтым праэкты павінны быць выкананы на сьветачулай паперы.

*Увага.* У неабходных выпадках разьмеры можна павялічыць у 2, 3 і больш разоў.

3. Праэкт новага будаўніцтва, пад якім разумеецца пабудаваньне новых прамысловых закладаў і новых гмахаў пры існуючых прамысловых прадпрыемствах (за выключэньнем выпадкаў, паказаных у арт. 9, згодна п. п. „а“ і „б“ арт. I абавязковай пастановы), павінны складацца з:

а) пляну мясцовасьці прылягаючай да тэрыторыі прадпрыемства на адлегласьці, ўстанаўляемай у залежнасьці ад сфэры пашырэнь

ня шкадлівасьці данай вытворчасьці на насяленьне прылягаючай мясцовасьці і акружаючых прамысловых закладаў; б) пляну тэрыторыі прадпрыемства; в) чарцяжоў (пляны, разрэзы, падрабязнасьці) прамысловых гмахаў; схэматычныя чарцяжы па абаграваньні і праветрываньні; д) паясьняльнай запіскі.

4. Для работ па п. п. „в“ і „г“ арт. I абавязковай пастановы вымагаецца прадстаўленьне чарцяжоў і паясьняльных запісак, дапасавальна да арт. 7, 8 і 9 гэтай інструкцыі, гэта значыць толькі для тых цэхаў, дзе будзе рабіцца перааbсталяваньне. Прадстаўленьне-ж чарцяжоў па арт. арт. 5 і 6 гэтай інструкцыі не вымагаецца

5. На пляне мясцовасьці павінны быць адзначаны: тэрыторыя прадпрыемства, краіны сьвету, вадаём, месца забору піцьцявой вады і спуску сьцечнай вады, заселеныя месцы, прамысловыя ўстановы, характэрныя для даннай мясцовасьці пабудаваньні.

Пляны мясцовасьці павінны быць складзены ў маштабе 1/10.000 або ў маштабе, які ёсьць у адпаведных установах, або ў парадку геаграфічных мапаў або плянаў заселеных месц.

6. На пляне тэрыторыі павінны быць паказаны: а) межы вучастку зямлі, прызначанага для будаўніцтва і прылягаючае мясцовасьці на адлегласьці каля 50 мэтраў; б) усе праэктуемыя і існуючыя будынкі з паказаньнем іх прызначэньня і роду матар'ялу; в) вольныя шляхі і зялёныя пасадкі; г) схэма разьмяшчэньня вадаёмаў, грэбель, вадаправодаў, каналізацыі, выграбных ям, пабудаваньняў для адводу і ачысткі скарыстанай для вытворчасьці вады; д) схэма разьмяшчэньня праездаў, праходаў, пад'ездных дарог, тунэляў, транспартных і пагрузачных пабудаваньняў, е) разьмяшчэньне адчыненых месц для складаў і работ, як у межах скарыстанага вучастку, так і ў непасрэдным суседзтве з ім.

Пляны тэрыторыі прадпрыемства павінны быць складзены ў маштабе 1/400 або 1/1000 ў залежнасьці і ад разьмеру вучастку.

7. У чарцяжох гмахаў прамысловых устаноў павінны быць схэматычна паказаны: разьмяшчэньне паравых і сілавых установак, разьмяшчэньне ў вытворчых памяшканьнях пад'ёмных збудаваньняў вытворчых машын (варштатаў, прыладаў, апаратаў і рознага роду прыладаў для вытворчасьці; супроць пажарных прыладаў і інш. спэцыяльных пабудаваньняў, а таксама памяшканьняў для санітарна-гігіэнічнага абслугоўваньня працуючых (душы, сталовыя, разьдзявальні, прыбіральні і інш.). Чарцяжы праэктуемых прамысловых гмахаў павінны быць складзены ў маштабе: а) пляны—1/200, разрэзы—1/100; б) падрабязнасьці—у вольным большым маштабе.

8. Падрабязныя праэкты абагравальных і праветрывальных пабудаваньняў у вытворчых памяшканьнях, а таксама іншых спэцыяльных прыладаў павінны быць прадстаўлены незалежна ад схэматычных паказаньняў чарцяжу, зробленага паводле арт. 7 гэтай інструкцыі.

9. Праэкты на новае будаўніцтва прамысловых устаноў, работы ня якіх ня могуць выклікаць забруджваньня надворнага паветра пылам, шкадлівымі газамі і параю, падачы пляну мясцовасьці не вымагаюць (арт. 3 п. „а“ гэтай інструкцыі).

10. У паясьняльнай запісцы, апрача агульнага паясьненьня канструкцыі, павінны быць паказаны: а) агульная характарыстыка тэрыторыі прадпрыемства і прылягаючай мясцовасьці з пункту гледжаньня рэльефу глебы, грунтавых вод і г. д.; б) апісаньне роду вытворчасьці з паказаньнем сырызны і асабліва небясьпечных і атрутных матэрый, ужываемых ў вытворчасьці, агульнае апісаньне

вырабаў вытворчасьці; в) кубатура паасобных памяшканьняў і найвялікшая колькасьць людзей, якія будуць знаходзіцца ў кожным памяшканьні; г) матар'ял з якога будуць зроблены сьцены, дзьверы сходы, стрэхі; д) сыстэмы, спосабы і нормы натуральнага і штучнага асьвятленьня; е) сыстэмы і нормы праветрываньня і абаграваньня для вытворчасьці, якія выдзяляюць газы і пыл. Разьлік праветрываньня з паказаньнем хуткасьці паветра ў трубах, сячэньня труб, магутнасьці душнікоў і разьлік калярыфэраў і абвільгацільнікаў; ж) спосабы адводу і ачысткі сьцечнай вады, адкіданьня цьвёрдага і плыўкага сьмецьця вытворчасьці, а таксама і нячыстот; з) лік і сыстэма паравых катлоў; і) лік, род і сыстэма машын-рухавікоў, магутнасьць іх; к) галоўныя вытворчыя машыны, варштаты, апараты і прылады; л) сыгналізацыйныя прылады для папярэджаньня няшчасных выпадкаў; м) спосабы ўнутранага перасоўваньня матар'ялаў і тавараў; н) іншыя паясьненьні да праэкту, якія лічыць патрэбным даць складчык праэкту.

11. Чарцяжы павінны быць адмалёваны агульнапрынятымі фарбамі, усе памяшканьні на пляне павінны мець назвы і паказаньні разьмераў. Чарцяжы і паясьняльная запіска павінны быць падпісаны іх складчыкам з адзначэньнем даты.

12. Заключэньні па прадстаўленых праэктах і анкетах павінны перадавацца ў органы аховы працы, паводле 2 і 3 часьці арт. 5 абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР ў наступныя тэрміны ад дню атрыманьня праэктаў і анкет: а) па праэктах пабудаваньняў, якія знаходзяцца за межамі месца жыцьця вучастковай інспэкцыі і ў выпадках неабходнасьці выезду на месца работы не пазьней чым у 4-х тыднёвы, а ў выпадку адсутнасьці неабходнасьці выезду—2-х тыднёвы тэрмін; б) заключэньні па анкетах у выпадках неабходнасьці выезду—3-х тыднёвы тэрмін, а пры адсутнасьці такой неабходнасьці—2-х тыднёвы тэрмін.

13. У выпадку дачы прадпрыемствамі няпоўных ведамасьцяй аддзелам і камэрам інспэкцыі працы даецца права не пазьней тыднёвага тэрміну запрасіць ад падацеляў дадатковыя ведамасьці ў адпаведнасьці з п. п. 3—10 гэтай інструкцыі.

14. Праэкты новых пабудоў і пераабсталяваньняў прамысловага характару, а таксама анкеты паводле арт. арт. 1 і 2 абавязковай пастановы, прадстаўляюцца ўперад у аддзелы і камэры працы, якімі праэкты або анкеты перадаюцца вучастковай спэцыяльнай інспэкцыі: заключэньні вучастковай спэцыяльнай інспэкцыі па праэктах работ, паводле арт. 2 абавязковай пастановы, зьяўляюцца канчатковымі: па п. п. „а“ і „б“ арт. 1 пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР, праэкты з заключэньнем спэцыяльнай інспэкцыі перадаюцца ў аддзел аховы працы Народнага Камісарыяту Працы БССР для канчатковага вырашэньня.

15. Пры заяве аб дазваленьні выкананьня работ, паводле п. 2 абавязковай пастановы павінна быць пададзена запісаная анкета па далучаемай форме, паводле 2-ой часткі п. 3 абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15/11—1926 г.

Народны Камісар Працы БССР **С. Ерафееў.**

Заг. Аддзелу Аховы Працы НКП БССР **Н. Ляўданская.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКП БССР **І. Акулаў.**

30 красавіка / 30 сьнежня 1926 году

№ 30.

ДАДАТАК.

# АНКЕТА

Для запаўненьня дакладнымі ведамасьцямі, паказанымі ніжэй і прадстаўленьня ў Народны Камісарыят Працы БССР, паводле п. 2 пастановы Народнага Каміс рыяту Працы БССР за 15/11—1926 г. аб папярэднім наглядзе.

1. Падрабязны адрас прадпрыемства: акруга ..................
раён .................................... сяленьне ..................
.................................... бліжэйшая чыгуначная станцыя ..................
.................................... адлегласьць ад бліжэйшай станцыі
....................................................................

2. У чыім веданьні знаходзіцца прадпрыемства: Савету Народнай Гаспадаркі, Камунальнай Гаспадаркі, Каапэратыву, Беларускага сельска-гаспадарчага трэсту або прыватнай асобы ..................
....................................................................

3. Назва прадпрыемства ..................................

4. Прозьвішча, імя і імя па бацьку адказнай асобы, арандатара або прыватнай асобы ..................................

5. Асабісты адрас адказнай асобы, арандатара, або прыватнай асобы
....................................................................

6. Характар вытворчасьці прадпрыемства ..................
....................................................................

7. У колькі зьмен працуе прадпрыемства ..................

8. З якога часу існуе прадпрыемства ..................

9. Ці мяркуецца пры пераабсталяваньні зьмяніць характар вытворчасьці ..................................

10. На што просяць дазволу ..................................

11. Прычыны перабудаваньня гмахаў (цесната, старасьць, пашырэньне вытворчасьці і інш.) ..................

12. Прычыны пераабсталяваньня варштатаў, машын (зношанасьць, устарэўшая канструкцыя, замена іх больш удасканаленымі варштатамі і г. д.) ..................
....................................................................

13. Ці робіцца пашырэньне або перабудаваньне і пераабсталяваньне па загаду Аддзелу Ахова Працы ..................
....................................................................

14. Калі пры перабудаваньні і пераабсталяваньні выконваецца частка работы па загаду Аддзелу Ахованы Працы, пералічыць якія работы ........................................................

15. На якую суму складзены каштарыс ........................................................

16. Якую суму мяркуецца скарыстаць на ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па ахове працы ........................................................

17. Колькі рабочых працавала на прадпрыемстве да пераабсталяваньня ........................................................

18. Якая колькасьць рабочых будзе працаваць пасьля пераабсталяваньня або ў нанова пабудаваным прадпрыемстве ........................................................

19. Апісаньне прадпрыемства ........................................................

а) Колькасьць паверхаў ........................................................

б) З якога матар'ялу гмах ........................................................

в) З якога матар'ялу страха ........................................................

г) З якога матар'ялу падлога, сходы, стольныя перакрыцьці ........................................................

д) Чым заняты паверхі ........................................................

е) Характар асьвятленьня (электрычнасьць, газа, газ і інш. ........................................................

ж) Якая вададастаўка (вадаправод, студні) ........................................................

з) Ці ёсьць каналізацыя (мясцовая або агульная) ........................................................

і) Якое абаграваньне маецца (паравое, вадзяное, пячамі, сталымі або перасоўнымі і г. д.) ........................................................

к) Характар праветрываньня (штучнае, натуральнае) ........................................................

л) Якія супроцьпажарныя прылады маюцца ........................................................

м) Ці ёсьць памяшканьне для яды, разьдзяваньня, душ, умывальнікі (паказаць даўжыню, шырыню і вышыню кожнага памяшканьня, колькасьць вокан, разьмер іх) ........................................................

н) Якія маюцца прыбіральні (цёплыя, халодныя), на якой ад-

легласьці ад рабочых памяшканьняў стаіць прыбіральня, колькі

аддзяленьняў маецца..........

о) Якія сілавыя ўстаноўкі маюцца на прадпрыемстве (паравыя катлы, рухавікі ўнутранага згараньня, вадзяныя і паравыя турбіны і інш.) і іншыя прылады, дзеючыя пад націскам пары, газы і

паветра..........

..........

..........

п) Якія маюцца пад'ёмныя мэханізмы..........

..........

Подпіс асобы, запаўняючай анкету..........

---

# 10. ПЫТАНЬНІ І АДКАЗЫ.

Запытаньні Тураўскай Раённай Зямельнай Камісіі за 1-га кастрычніка 1926 году № 7219:

ПЫТАНЬНЕ **16**. Ці мае права працоўная земляробчая гаспадарка здаць у арэнду на праве забудоўкі сядзібны вучастак і, калі мае, то на які тэрмін?

АДКАЗ. Працоўная земляробчая гаспадарка карыстаецца ад дзяржавы зямлёю для вядзеньня на ёй сваею працаю сельскае гаспадаркі. Пагэтаму яна ня можа здаваць зямлю, якая знаходзіцца ў яе карыстаньні, другім асобам на праве забудоўкі. Такая здача давала-б двару непрацоўны даход і зьяўлялася-б недапусьцімай перауступкай права карыстаньня зямлёю, што зьвязана з вынікамі, прадугледжанымі арт. 26 Зямельнага Кодэксу.

ПЫТАНЬНЕ **17**. Ці захоўваецца права члена двара на зямлю ў ім і маемасьць, калі ён у сваёй гаспадарцы не працаваў апошнія 6 год да дня дасягненьня паўналецьця, а працаваў у якасьці парабка ў іншых асоб, прычым па дасягненьні паўналецьця зьвярнуўся ў двор і патрабуе дзяльбы?

АДКАЗ. Паводле ўвагі 2 і арт. 64 Зямельнага Кодэксу малалетні толькі ў тым выпадку траціць права на зямлю і іншую маемасьць двара, у якім ён радзіўся, калі ён разам з бацькам або маткаю ўвойдзе ў склад другога двара. Малалетні-ж, адданы ў чужы двор у якасьці парабка, прадаўжае заставацца членам свайго двара і захоўвае ў ім права на ўсю агульную маемасьць.

Патрабаваць дзяльбы ён можа толькі па дасягненьні паўналецьця (арт. 73 Зямельнага Кодэксу), калі гаспадарка зьяўляецца драбімаю.

Запытаньні Петрыкаўскай Раённай Зямельнай Камісіі за 2-га кастрычніка 1926 году № 8953:

ПЫТАНЬНЕ **18**. Калі ўсе члены двара ўваходзяць у калектыў, то ці маюць яны права перавезьці ў яго свае будынкі, а таксама ці могуць яны здаць у арэнду зямлю, якая знаходзілася ў іх карыстаньні да ўваходу ў калектыў?

АДКАЗ. Будынкі на падставе арт. 24 Зямельнага Кодэксу складаюць уласнасьць землякарыстаньня. Пагэтаму, калі ўсе члены двара ўваходзяць у калектыў, яны могуць забраць з сабою свае будынкі.

Сельска-гаспадарчы калектыў можа быць створан: а) на землях працоўнага карыстаньня, б) на працоўных землях з далучэньнем да іх вучастку з складу дзяржаўнага фонду і в) выключна на землях, якія даюцца яму зямельнымі органамі. У апошнім выпадку калектыву можа быць дадзена запасная зямля ў сталае працоўнае карыстаньне, або адведзен вучастак з складу дзяржаўных зямельных маемасьцяй на дагаворных пачатках. У абодвых гэтых выпадках двары, уваходзячыя ў калектыў, павінны адмовіцца ад працоўнай зямлі, якая находзіцца ў іх карыстаньні, і ня маюць права на здачу яе ў арэнду, дзеля таго, што яны атрымліваюць ад дзяржавы выстарчальнае зямельнае забесьпячэньне і дзеля таго, што не дапускаецца здача зямлі ў працоўную арэнду ў адным месцы з тым, каб узяць у арэнду іншую зямлю, як гэта растлумачана ўжо Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю 14 мая 1926 г. па журналу № 8 (Бюлетэнь СНК БССР № 8 (17) за 15 чэрвеня 1926 году ў адказе на пытаньне 65).

ПЫТАНЬНЕ **19**. Як увязаць арт. 72 Зям. Код., па якому магчыма разьмеркаваньне маемасьці паміж членамі двара пры немагчымасьці падзелу яго ўдоб'яў, а таксама арт. 79, па якому спрэчкі аб падзеле маемасьці двара вырашаюцца народным судом, з растлумачэньнем Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю (адказ на пытаньне 74, Бюлетэнь СНК БССР № 8 (17), за 15 чэрвеня 1926 г.) па якому пры недрабімасьці зямлі двара не падлягае падзелу паміж яго членамі і астатняя маемасьць?

АДКАЗ. Пры падзеле двара адбываецца выхад з яго часткі членаў. Пры разьмеркаваньні паміж членамі двара маемасьці без зямлі ўсе члены застаюцца ў складзе свайго двара і вядуць гаспадарку на агульнай зямлі, разьмеркаваўшы толькі паміж сабою па дабрахвотнай згодзе або па вырашэньню зямельнай камісіі будынкі і іншую маемасць На падставе арт. 84 Зямельнага Кодэксу пры выхадзе з складу недрабімага двара часткі членаў яны па агульнаму правілу могуць атрымаць толькі выплаты бяз выдзелу ім у натуры будынкаў і іншага інвэнтару. Выключэньне складае толькі выпадак, прадугледжаны растлумачэньнем Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю ў адказе на пытаньне 142 (Бюл. СНК БССР за 1/XII-26 г. № 15 (24). Калі-ж двор, па колькасьці маючайся ў ім зямлі зьяўляецца драбімым, выходзячыя-ж з яго складу члены ня просяць аб падзеле зямлі, а дамагаюцца падзелу ў натуры астатняе маемасьці, то гэтыя іскі вырашаюцца народным судом.

## Запытаньне Сьмілавіцкай Раённай Зямельнай Камісіі за 27-га кастрычніка 1926 г. № 11058:

ПЫТАНЬНЕ **20**. Ці можа член двара, прад'явіўшы іск аб падзеле зямлі і іншае агульнае маемасьці і атрымаўшы па вырашэньню зямельнай камісіі частку маемасьці ў натуры без зямлі з прычыны недрабімасьці двара, прадаўжаць карыстацца зямлёю ў складзе двара аж да атрыманьня зямлі з запаснага фонду?

АДКАЗ. Член двора, прад'явіўшы іск да другіх членаў таго-ж двара аб падзеле агульнае гаспадаркі, якою ён карыстаўся сумесна з адказчыкамі да прад'яўленьня іску, мае права прадаўжаць кары-

стацца разам з імі зямлёю, калі ў іску аб падзеле яе яму было адмоўлена з прычыны недрабімасьці гаспадаркі, а зроблена зямельнымі камісіямі ў парадку арт. 72 Зямельнага Кодэксу толькі разьмеркаваньне астатняе агульнае маемасьці. Пры разьмеркаваньні апошняй стораны, намеціўшы належачую кожнай з іх маемасьць, прадаўжаюць сумесна весьці агульную гаспадарку; пры падзеле-ж ствараюцца з аднае гаспадаркі дзьве або некалькі самастойных.

## Узьнікшыя ў практыцы Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю пытаньні:

ПЫТАНЬНЕ **21**. У якім парадку павінна рабіцца адплата ўкладзенных у зямлю, але нескарыстаных затрат, пры забраньні палепшанай зямлі для дзяржаўных і грамадзкіх патрэбнасьцяй, пры ўнутрыпасельным земляўпарадкаваньні і пры забраньні лішкаў у буйных гаспадарках.

АДКАЗ. У выпадку забраньня мэліараванай зямлі ацэнку нескарыстаных затрат на палепшаньні робіць земляўпарадчык у парадку, установленым пунктам 2 цыркуляру Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 28 ліпеня 1926 году № 18. Вынікі ацэнкі заносяцца... пісваюцца ў земляупарадчы праэкт, які на агульнай падставе прад'яўляецца старанам і разглядаецца затым зямельнымі камісіямі. Вырашэньне апошніх выконваецца ў гэтай часьці адначасна з пераходам удзельнікаў земляўпарадкаваньня да землякарыстаньня ў новых межах паводле ўвагі да арт. 169 Зямельнага Кодэксу.

У прыватнасьці, пры забраньні засеянай зямлі апошняя павінна перадавацца новаму землякарыстальніку пасьля зьняцьця ранейшым ураджаю ў тым-жа годзе. Калі-ж на вучастку застаюцца яшчэ нескарыстаныя многагоднія культуры, то новы землякарыстальнік адплачвае выдаткі ранейшага на падставах, паказаных у земляўпарадчым праэкце.

ПЫТАНЬНЕ **22**. Як трэба рабіць у тых выпадках, калі аддзел дзяржаўных зямельных маемасьцяй прызнае магчымым выключыць з складу дзяржаўных зямельных маемасьцяй вучастак, зданы ў арэнду, з прычыны мэтазгоднасьці перадачы гэтага вучастку ў працоўнае карыстаньне для надзяленьня беднаты, прычым умовы дагавору арандатарам у поўнай меры выконваюцца.

АДКАЗ. У дадатак да свайго растлумачэньня ў адказе на пытаньне 132 (Бюлетэнь СНК БССР № 15 (24) за 1 сьнежня 1926 г.) Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю, прымаючы пад увагу тую акалічнасьць, што надзяленьне зямлёю беднаты выклікаецца дзяржаўнай неабходнасьцю, растлумачвае:

Калі вучастак з складу дзяржаўных зямельных маемасьцяй, які знаходзіцца ў арэндзе па дагавору, неабходзен для разьмеркаваньня яго сярод маючых патрэбу ў зямлі грамадзян, прычым аддзел дзяржаўных зямельных маемасьцяй згодзен на пераліченьне гэтага вучастку ў склад земель працоўнага карыстаньня, то забраньне ад арандатара і разьмеркаваньне зямлі сярод беднаты робіцца ў парадку земляўпарадкаваньня падобна таму, як робіцца забраньне зямлі з працоўнага карыстаньня для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб, а іменна, земляўпарадчыкам на падставе належнага даручэньня складаецца праэкт датэрміновага забраньня зямлі, скасаваньня дагавору і разьмеркаваньня забіраемай зямлі сярод маючых патрэбу ў ёй грамадзян. Калі арандатар не атрымлівае па праэкту ў працоўнае карыстаньне разьмяркоўваемую зямлю, то ў праэкце павінны

быць прадугледжаны разьмер і парадак адплаты арандатару яго страт, а таксама ўкладзеных у зямлю і нескарыстаных ім палепшаньняў. Земляўпарадчы праэкт на агульнай падставе прад'яўляецца ўсім зацікаўленым старанам і падаецца затым у зямельную камісію. Апошняя касуе дагавор пры зацьверджаньні земляўпарадчага праэкту, або адмаўляе ў зацьверджаньні апошняга, калі скасаваньне дагавору не прадстаўляецца неабходным.

Адказы на пытаньні 16—22 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 27 студзеня 1927 году № 22).

## Запытаньні Віцебскага Акруговага Зямельнага Аддзелу за 2-га лістапада 1926 году № 15882:

ПЫТАНЬНЕ **23**. Ці трэба выносіць пастановы ў канчатковай форме ў парадку арт. 173 Зямельнага Кодэксу па ўсіх земляўпарадчых справах, выкананых з 1922 году, калі гэтыя справы адпаведным чынам агледжаны, зацьверджаны земляўпарадчаю нарадаю, запісаны ў рэгістрацыйныя кнігі і зданы на захаваньне ў архіў.

АДКАЗ. Не падлягаюць паўторнаму зацьверджаньню з боку акруговай зямельнай камісіі ў парадку арт. 173 Зямельнага Кодэксу тыя выкананыя земляўпарадчыя праэкты, якія да тэрміну ўвядзеньня ў дзеяньне новага зямельнага кодэксу (1 красавіка 1925 году) канчатковa зацьверджаны земляўпарадчаю ўстановаю (земляўпарадчаю нарадаю або акруговаю зямельнаю камісіяю). Гэтыя справы па запісаньні іх у рэгістрацыйныя кнігі здаюцца на захаваньне ў зямельны архіў, калі да гэтага часу гэта ня было зроблена.

ПЫТАНЬНЕ **24**. Кім павінна рабіцца прадугледжанае арт. 172 Зямельнага Кодэксу выкананьне земляўпарадчага праэкту, якое заключаецца ў замацаваньні на мясцовасьці граніц землякарыстаньняў сталымі межавымі знакамі з дзяржаўным гэрбам БССР. Дзеля таго, што гэтыя дзеяньні земляўпарадчык робіць пры пераносе праэкту ў натуру, то выкананьне праэкту зводзіцца ў сутнасьці да абвяшчэньня старанам аб тым, што праэкт зацьверджан акруговай зямельнай камісіяй. Выканаць гэта можа і сельскі савет.

АДКАЗ. Калі акруговая зямельная камісія пры разглядзе ў парадку арт. 171 Зямельнага Кодэксу земляўпарадчага праэкту зацьвердзіла яго бяз усякіх зьмен, то прадугледжанае 172 арт. таго-ж Кодэксу выкананьне праэкту можа быць зроблена праз сельскі савет.

Апошні абвяшчае ўдзельнікам земляўпарадкаваньня, што земляўпарадчы праэкт зацьверджан, што з моманту выкананьня яго пастаўленыя межавыя знакі набываюць значэньне сталых і што ўдзельнікі земляўпарадкаваньня могуць пераходзіць да землякарыстаньня ў новых межах.

У выпадку-ж унясеньня акруговай зямельнай камісіяй у земляўпарадчы праэкт зьмен, выкананьне яго робіцца земляўпарадчыкам.

ПЫТАНЬНЕ **25**. Ці ня будзе болей мэтазгодным замест вынясеньня акруговай зямельнай камісіяй прадугледжанае арт. 173 Зямельнага Кодэксу пастановы ў канчатковай форме ўключаць у земляўпарадчы праэкт усе паказаныя ў гэтым артыкуле зьвесткі?

АДКАЗ. Уключэньне ў земляўпарадчы праэкт зьвестак, паказаных у арт. 173 Зямельнага Кодэксу, зьяўляецца бязумоўна неабходным. Пазбаўленьне-ж акруговых зямельных камісій ад абавязнасьці выносіць пастановы ў канчатковай форме па земляўпарадчых справах, якія робяцца пры дзеяньні новага Зямельнага Кодэксу БССР,

можа быць дапушчана толькі пасьля адпаведнае зьмены ў заканадаўчым парадку арт. 173 Зямельнага Кодэксу ў мэтах спрошчаньня земляўпарадчага працэсу.

## Запытаньне Бабруйскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 3 лістапада 1926 году № 12.913:

ПЫТАНЬНЕ **26**. Грамадзянін мае $3^1/_2$ дзес. сельска-гаспадарчай зямлі ў мяжы гораду і 2 дзес. зямлі працоўнага карыстаньня ў весцы. У ёй робіцца ўнутрыпасельнае земляўпарадкаваньне. Ці можа зямельная камісія пры разгляданьні земляўпарадчага праэкту пазбавіць грамадзяніна гарадзкой зямлі і даць яму мінімальную норму ў вёсцы, ці пазбавіць яго зямлі працоўнага карыстаньня з тым, каб гарадзкі савет кампэнсаваў яго ў горадзе?

АДКАЗ. Пазбаўленьне грамадзяніна зямлі можа рабіцца толькі на падставах, паказаных у законе. Правядзеньне земляўпарадкаваньня не зьяўляецца такою падставаю, калі землякарыстаньне не перавышае максімальнай нормы. Злучэньне двох або некалькіх вучасткаў у адзін пры земляўпарадкаваньні магчыма толькі ў тым выпадку, калі ўсе гэтыя вучасткі ўваходзяць у агульную дачу размеркаваньня, чаго ў данным выпадку няма. Пагэтаму, калі ў прыведзеным прыкладзе землякарыстальнік сам ад зямлі не адмаўляецца, ён павінен быць пакінут пры фактычным землякарыстаньні, месца разьмяшчэньне і межы якога пры земляўпарадкаваньні могуць быць зьменены.

## Запытаньне Памочніка Пракурора 1-га вучастку Барысаўскае акругі за 19 лістапада 1926 году № 486:

ПЫТАНЬНЕ **27**. Ці мае права земляўпарадчык пры выкананьні рашэньня зямельнай камісіі аб абрэзцы буйнае гаспадаркі, якой рашэньню пакідаецца пэўная колькасьць удоб'яў, зьмяніць гэту колькасьць, замяніўшы адны ўдоб'і другімі на падставе цыркуляру № 17?

АДКАЗ. Пры выкананьні рашэньня зямельнай камісіі аб забраньні лішкаў зямлі ад буйнае гаспадаркі яна атрымлівае тую колькасьць зямлі ў тых удоб'ях, як гэта паказана ў рашэньні. Калі-ж у сапраўднасьці ня знойдзецца паказанае ў рашэньне колькасьці кожнага з удоб'яў, то дапускаецца замена ўдобнай зямлі на няўдобную з захаваньнем арт. 4 цыркуляру Народнага Камісарыяту Земляробства за 4 красавіка 1925 году № 17. Замена-ж удобнай зямлі на няўдобную з адпаведным павышэньнем колькасьці пакідаемай зямлі можа быць зроблена толькі са згоды абрэзваемае гаспадаркі.

## Запытаньне Валынцаўскай Раённай Зямельнай Камісіі за 20 лістапада 1926 году № 11.502:

ПЫТАНЬНЕ **28**. Паводле арт. 84 Зямельнага Кодэксу члены недрабімага двара пры выхадзе з яго складу маюць права на выплату грашыма або натурай; што трэба разумець пад „натурай", аб якой гаворыцца ў гэтым артыкуле?

АДКАЗ. Дзеля таго, што член двара, выходзячы з недрабімай гаспадаркі, ня мае права патрабаваць яе падзелу, а можа толькі атрымаць выплату з гаспадаркі, то пад словам „натурай" у арт. 84 Зямельнага Кодэксу трэба разумець прадукты, вопратку і інш. вынікі вытворчасьці сельскае гаспадаркі, але ня самыя прылады вытворчасьці—зямлю, інвэнтар і інш.

## Запытаньне Касьцюковіцкай Раённай Зямельнай Камісіі за 21 лістапада 1926 году № 10.357:

ПЫТАНЬНЕ **29**. Ці мае права працоўная земляробчая гаспадарка патрабаваць выключэньня рашэньнем зямельнай камісіі з складу двара яго члена, за асабістыя даўгі якога з двара ўжо спагнана цалкам вартасьць часткі маемасьці, падаючай на долю азначанага члена?

АДКАЗ. Паводле арт. 64 Зямельнага Кодэксу склад двара памяншаецца ў выпадках выхаду з складу двара яго членаў і сьмерці іх. Выхад членаў двара з яго складу робіцца: а) калі член двара сам гэтага пажадае і заявіць сельскаму савету аб выключэньні яго з падворнага сьпісу, б) калі ён увойдзе ў склад другога двара і в) калі ён прабудзе на працоўных заработках болей двох севазваротных тэрмінаў і ўвесь гэты час ня будзе падтрымліваць ніякай сувязі з сваім дваром.

Другіх падстаў для выключэньня члена двара з яго складу закон не прадугледае.

Член двара мае ў ім права ня толькі на маемасьць, але і на зямлю. Асабісты-ж доўг члена двара спаганяецца толькі з той часткі агульнае маемасьці, якая выпадае на долю гэтага члена. Пагэтаму нельга з-за робячыхся з двара спагнаньняў за даўгі члена двара рашэньнем зямельнай камісіі выключыць члена з складу двара і пазбавіць яго гэтым тых праў на зямлю, якія ён мае па закону.

## Запытаньне Барысаўскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 22 лістапада 1926 году № 1299:

ПЫТАНЬНЕ **30**. Як павінна паступаць зямельная камісія ў тым выпадку, калі член драбімага двара, прад'яўляючы іск аб яго падзеле, па ліку працоўных адзінак ня мае права на атрыманьне мінімальнай нормы зямлі паводле арт. 81 Зямельнага Кодэксу. Ці трэба ў гэтым выпадку выдзеліць ісцу частку агульнае маемасьці і адмовіць у іску аб падзеле зямлі, прызнаўшы ісца безьзямельным, а да атрыманьня ім зямлі з складу запаснага фонду даць ісцу права карыстацца зямлёю разам з адказчыкамі, ці трэба выдзеліць ісцу частку агульнае маемасьці, а зямлю пакінуць у сумесным карыстаньні старон?

АДКАЗ. У дадатак да растлумачэньня 3 па журналу 21 (Бюлетэнь СНК БССР за 15 студзеня 1927 г. № 2 (27), адказ на пытаньне 9). Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю паведамляе, што іск аб падзеле гаспадаркі можа разглядацца зямельнай камісіяй толькі ў выключных выпадках, прычым калі на долю выдзяляючыхся членаў двара па ліку маючыхся ў іх працоўных адзінак ня прыходзіцца мінімальнай нормы зямлі, то ў іску аб падзеле гаспадаркі трэба па агульнаму правілу адмовіць.

Адказы на пытаньні 23—30 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 27 студзеня 1927 году № 23).

## 11. Папярэднія данныя аб ходзе перавыбараў саветаў.

Асноўнымі відамі асьвятленьня ходу і вынікаў перавыбараў саветаў зьяўляюцца: інфармацыйныя агляды і справаздачы па пэўнай форме, статыстычныя данныя, і асьвятленьне ў друку: вяскораўскія і рабкораўскія дописы і артыкулы. Афіцыйныя матар'ялы пачнуць паступаць па сканчэньні перавыбараў і пад'агульваньні вынікаў раённымі і акруговымі выканаўчымі камітэтамі. Тады будзе магчыма па вычэрпваючых і рознабаковых матар'ялах даць поўную характарыстыку і ацэнку выбараў у саветы ў 1927 годзе.

Зараз-жа асноўнаю крыніцаю зьвестак аб ходзе перавыбараў зьяўляюцца лічбавыя данныя, якія атрымаў Арганізацыйны Аддзел ЦВК ад Раённых Выканаўчых Камітэтаў.

На 3 лютага маюцца зьвесткі па 906 (75,8 проц.) перавыбраных сельскіх саветах, у якіх мела права выбіраць 1.318.373 чал. Зьявілася на выбары 616.037 чал., або 46, 7 проц. У 1926 г. процант яўкі быў 46, 5: павялічэньне нязначнае (+0,2 проц.)

Але калі мы зробім параўнаньне паміж паасобнымі акругамі, то пабачым значныя хістаньні:

| | 1926 г | 1927 г | Плюс або мінус *) |
|---|---|---|---|
| 1. У Мазырскай акрузе | 49,9 проц. | 54,2 проц. | +4,3 проц. |
| 2. „ Аршанскай „ | 48,3 проц. | 49,6 проц. | +1,3 проц. |
| 3. „ Барысаўскай „ | 48,1 проц. | 48,9 проц. | +0,8 проц. |
| 4. „ Калінінскай „ | 46,3 проц. | 48,6 проц. | +2,8 проц. |
| 5. „ Магілёўскай „ | 42,4 проц. | 47,0 проц. | +4,6 проц. |
| 6. „ Бабруйскай „ | 47,9 проц. | 46,2 проц. | —1,7 проц. |
| 7. „ Віцебскай „ | 48,8 проц. | 44,3 проц. | —4,5 проц. |
| 8. „ Менскай „ | 46,3 проц. | 44,1 проц. | —2,2 проц. |
| 9. „ Полацкай „ | 44,4 проц. | 43,2 проц. | —1,2 проц. |
| 10. „ Слуцкай „ | 42,7 проц. | 40,9 проц. | — 1,8 проц. |

Па актыўнасьці выбіральнікаў першае месца ў БССР, як і ў мінулым годзе, займае Мазырская акруга (54,2 проц.), а на апошнім месцы знаходзіцца Слуцкая (40,9 проц.). У параўнаньні з 1926 г. процант яўкі больш павялічыўся ў Магілёўскай акрузе (+4,6 проц.) і больш зьменшыўся ў Віцебскай акрузе(—4,5 проц.).

Зьвернемся да лічбаў, характарызуючых актыўнасьць жанчын (сялянак). Сярэдні процант 26,2 **) (у 1926 г.—24,7 проц.)—павялічэньне на 1,5 проц. Па паасобных акругах мы маем наступнае:

---

*) Павялічэньне або памяншэньне

**) Процант падлічан да агульнай колькасьці жанчын выбаршчыц.

| | 1926 г | 1927 г | плюс або мінус |
|---|---|---|---|
| 1. У Мазырскай акрузе | 28,7 проц. | 36,4 проц. | +7,7 проц. |
| 2. „ Аршанскай „ | 27,0 проц. | 29,8 проц. | +2,8 проц. |
| 3. „ Барысаўскай „ | 28,6 проц. | 28,5 проц. | —0,1 проц. |
| 4. „ Калінінскай „ | 23,4 проц. | 28,0 проц. | +4,6 проц. |
| 5. „ Бабруйскай „ | 29,9 проц. | 26,7 проц. | —3,2 проц. |
| 6. „ Полацкай „ | 23,2 проц. | 25,3 проц. | +2,1 проц. |
| 7. „ Віцебскай „ | 28,6 проц. | 25,1 проц. | —3,5 проц. |
| 8. „ Менскай „ | 24,7 проц. | 24,0 проц. | —0,7 проц. |
| 9. „ Слуцкай „ | 19,4 проц. | 20,6 проц. | +1,2 проц. |
| 10. „ Магілёўскай „ | 16,0 проц. | 20,2 проц. | +4,2 проц. |

У данным выпадку на першым месцы Мазырская акруга (36,4%), якая дала павялічэньне на 7,7 проц. Апошняе месца займае Магілёўская акруга (20,2 проц.), хоць у параўнаньні з леташнім годам, калі яна таксама была на апошнім месцы (16 проц.), маецца павялічэньне на 4,2 проц. Найбольшае зьніжэньне даюць Віцебская (—3,5 проц.) і Бабруйская (—3,2 проц.) акругі, якія ў перавыбары 1926 г. па актыўнасьці выбаршчыц знаходзіліля на першым месцы.

Што тычыцца выбіраньня жанчын у саветы, то тут, ня гледзячы на параўнальна большую актыўнасьць, справа вельмі дрэнная. У 1926 г. процант выбіраньня быў роўны 8,2, а ў гэтым годзе—6,9, што дае зьніжэньне на 1,3 проц.

Па акругах мы маем такі малюнак выбіраньня жанчын у саветы:

| | 1926 г. | 1927 г. | Плюс або мінус. |
|---|---|---|---|
| 1. У Мазырскай акрузе | 9,0 проц. | 9,5 проц. | +0,5 проц. |
| 2. „ Аршанскай „ | 8,7 проц. | 8,2 проц. | —0,5 проц. |
| 3. „ Віцебскай „ | 9,4 проц. | 7,8 проц. | —1,6 проц. |
| 4. „ Калінінскай „ | 6,6 проц. | 7,7 проц. | +1,1 проц. |
| 5. „ Менскай „ | 7,9 проц. | 6,4 проц. | —1,5 проц. |
| 6. „ Бабруйскай „ | 7,1 проц. | 6,3 проц. | —0,8 проц. |
| 7. „ Полацкай „ | 11,7 проц. | 6,2 проц. | —5,5 проц. |
| 8. „ Магілёўскай „ | 7,4 проц. | 5,9 проц. | —1,5 проц. |
| 9. „ Барысаўскай „ | 7,5 проц. | 5,5 проц. | —2,0 проц. |
| 10. „ Слуцкай „ | 8,3 проц. | 5,0 проц. | —3,3 проц. |

Таксама і тут на першым месцы Мазырская акруга (9,5 проц.), на апошнім—Слуцкая (5,0 проц.).

Полацкая акруга, якая ў мінулым годзе была першаю (11,7%), сёлета дае максімальнае зьніжэньне, амаль ня ў два разы.

Калінінская акруга дала найбольшае павышэньне (+1,1 проц). Але наогул, за выключэньнем двух акруг (Мазырскай і Аршанскай), ва ўсіх іншых жанчын выбралі менш, чым у 1926 г. Гэта тым болей дзіўна, што актыўнасьць жанчын значна ўзрасла і што маецца ўжо даволі вялікі кадр грамадзянак, выявіўшых сябе на рабоце ў якасьці членаў саветаў, камісій і розных каапэрацыйных і грамадзкіх арганізацый.

У складзе новавыбраных сельскіх саветаў процант членаў КП(б)Б складае 10,6, што дае ў параўнаньні з 1926 г. павышэньне на 2,1%; членаў ЛКСМБ выбрана 10,7%—павышэньне супроць мінулага году на 0,7%.

Якія папярэднія вывады можна зрабіць на грунце паказаных лічбаў?

1. Актыўнасьць выбаршчыкаў амаль што не зьмянілася (46,7% і 46,5%. Прычыны зьніжэньня процанту яўкі выбаршчыкаў, якое ёсьць у паасобных (пяці) акругах параўнальна з мінулым годам, павінн быць добра вывучаны раённымі і акруговымі выканаўчымі камітэт мі.

2. Павялічылася актыўнасьць жанчын выбаршчыц. Зніжэньне процанту яўкі жанчын наогул у некаторых акругах і ў паасобку ў тых, якія ў мінулым годзе былі на першым (Бабруйская) і другім (Віцебская) месцы побач са значным павышэньнем у іншых (Мазырскай, Калінінскай) апроч аб'ектыўных: бытавых і кліматычных прычын мае, як відаць, і суб'ектыўныя: слабую арганізацыю і несваячасную падрыхтоўку. Трэба прычыны ўсіх недахопаў вывучыць, каб у будучыне яны не паўтараліся. Таксама трэба вывучыць прычыны зьніжэньня процанту жанчын, выбраных у саветы.

3. Павялічэньне процанту членаў КП(б)Б і ЛКСМБ гаворыць аб тым, што аўтарытэт партыі і камсамолу ўсё больш узрастае.

**Лібман.**

5 лютага 1927 г.
Менск.

---

## 12. Мена зямлі.

Дарэвалюцыйнае рускае законадаўства не дапускала мены зямлі. Асобы, жадаўшыя памяняцца сваімі з мельнымі вучасткамі, павінны былі прадаць іх адзін аднаму. Пры наяўнасьці прыватнай уласнасьці на зямлю забарона ею мяняцца прасьледавала галоўным чынам фіскальныя мэты. Замест аднэй зьдзелкі—мены трэба было зрабіць дзьве—продаж і куплю, аплачваемыя рознымі зборамі.

У цяперашні час фіскальныя сьцямленьні ня іграюць у гэтым выпадку ніякай ролі. Зямля, складаючы дзяржаўную ўласнасьць, забрана з грамадзянскага звароту. Усякая пераўступка бестэрміновага права карыстаньня зямлёй забаронена. Што-ж тычыцца мены, то на падставе арт. 26 Зямельнага Кодэксу забаронена „самавольная" мена зямлі. Гэта значыць, што працоўныя землякарыстальнікі ня маюць права мяняцца вучасткамі, якія знаходзяцца ў іх карыстаньні, без дазволу зямельных органаў, якія ажыцьцяўляюць агульны кантроль за правільнасьцю выкарыстаньня дадзеных сельскаму насяленьню зямель.

У якіх-ж выпадках зямельныя органы могуць дазволіць працоўным землякарыстальнікам памяняцца іх вучасткамі. Мабыць у тых, калі мена зямлі будзе ажыцьцўляцца ў адпаведнасьці з сацыяльнагаспадарчым прызначэньнем (арт. 1 Грамадзянскага Кодэксу) права працоўнага землякарыстаньня. Прызначэньнем гэтага права зьяўляецца рацыянальнае вядзеньне сваею працаю сельскае гаспадаркі.

Мена зямлі павінна быць дапушчана ў тых выпадках, калі яна будзе дапамагаць адхіленьню недахватаў землякарыстаньня або, наогул, будзе прызнана гаспадарча-мэтазгоднай. Да недахватаў землякарыстаньня адносяцца ўзаемная цераспалосіца, укліньваньне зямель, няправільнасьць межаў, дальнязямельле, недахваты забесьпячэньня вадою і дарогамі.

Адхіленьне недахватаў землякарыстаньня зьяўляецца мэтаю земляўпарадкаваньня. Пры ім робіцца ў аграмаднай большасьці выпадкаў замена адных вучасткаў працоўнага землякарыстаньня на другія ў мэтах акругленьня межаў і магчыма большага прыбліжэньня апрацоўваемых удоб'яў да сядзібы.

Гэта замена праэктуецца земляўпарадчыкам у большасьці выпадкаў бяз згоды старон. Пасьля-ж паказаньня праэкту ўдзельнікі земляўпарадкаваньня могуць па ўзаемнай згодзе памяняцца прызначанымі ім вучасткамі. Такія зьдзелкі ў выпадку пры-наньня іх гаспадарча мэтазгоднымі афармляюцца земляўпарадчыкам шляхам ўнясеньня адпаведных зьмен у земляўпарадчы праэкт. Напрыклад, на практыцы быў выпадак, калі двор, атрымаўшы ў адпаведнасьці з сваімі правамі максімальную норму зямлі далека ад дарогі пажадаў памяняцца на невялікі вучастак каля дарогі, каб заняцца кавальскім рамяством. Склад сям'і ў першым двары быў меншы, чым у другім. Такі абмен быў прызнаны рацыянальным.

Неабходнасьць памяняцца зямельнымі вучасткамі можа ўзьнікнуць і тагды, калі ня робіцца земляўпарадкаваньня. І ў гэтых выпадках мена зямлі павінна праследаваць мэты адхіленьня недахватаў землякарыстаньня і стварэньня жыцьцёвых гаспадарак, напрыклад, калі пражываючы ў вёсцы селянін, ня маючы палявой зямлі, пажадае ўступіць суседу сваю сядзібу, каб выселіцца на абасоблены вучастак апошняга, які знаходзіцца далека ад вёскі. У данным выпадку выйгрываюць абедзьве гаспадаркі: адна з іх пашырыць у вёсцы сваю сядзібу, а другая атрымае абасоблены хутар.

Якім-жа чынам павінна быць аформлена мена зямлі, калі ня робіцца земляўпарадкаваньне? Ясна, што самавольная мена можа пацягнуць за сабою па сэнсу арт. 26 Зямельнага Кодэксу адабраньне зямлі ад абодвых удзельнікаў зьдзелкі. Каб гэтага ня было, гаспадары двароў, якія мяняюцца зямельнымі вучасткамі, павінны заявіць аб гэтым сельскаму савету. Апошнім складаецца земляўпарадчы праэкт мены, ў якім падрабязна апісваецца, хто, па якіх прычынах, якімі землямі жадае памяняцца і ўсе іншыя акалічнасьці справы.

Складзены праэкт паказваецца затым агульнаму сходу грамадзян мясцовае зямельнае грамады або ўпаўнаважаным яе, калі такія ёсьць, і ўдзельнікам зьдзелкі. У двухтыднёвы тэрмін з дню паказаньня праэкту апошні можа быць абскарджан зямельнаю грамадою і старанамі ў раённую зямельную камісію. Па сканчэньні азначанага тэрміну праэкт мены падаецца сельскім саветам у азначаную камісію ў якасьці земляўпарадчае справы нават і ў тым выпадку, калі скаргаў на праэкт ні ад кога ня будзе.

Раённая зямельная камісія разглядае справу з выклікам старон, высьвятляючы пры гэтым, ці прывядзе праэктуемая мена зямлі да адхіленьня недахватаў землякарыстаньня і стварэньню жыцьцёвых гаспадарак, ці не прыкрывае яна сабою продажу зямлі, а затым зацьвярджае праэкт або адмаўляе ў яго зацьверджаньні.

Дзеля таго, што пастановы раённай зямельнай камісіі па ўсіх без выключэньня земляўпарадчых справах не ўступаюць у законную сілу да зацьверджаньня іх акруговаю зямельнаю камісіяю, а справы па абмену зямлі, калі ня робіцца поўных разьмеркаваньняў, разглядаюцца ў парадку спрошчанага земляўпарадкаваньня, пры якім праэкт мены складаецца сельскім саветам, то ўсякая справа аб мене зямлі павінна канчаткова разглядацца акруговаю зямельнаю камісію—у адчыненым судовым паседжаньні, калі на пастанову раён-

най камісіі паступяць скаргі, і ў распарадчым паседжаньні бяз выкліку старон—пры адсутнасьці скаргаў.

Значыцца, у цяперашні час мена зямлі, рабімая працоўнымі землеробчымі гаспадаркамі, законна толькі ў тым выпадку, калі яна аформлена земляўпарадчым праэктам і зацьверджана Зямельнымі Камісіямі. Раённы Выканаўчы Камітэт не павінен прымаць цяпер да рэгістрацыі зьдзелкі адносна мены зямлі, паводле растлумачэньня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю за 15 сьнежня 1926 году па журналу яе распарадчага паседжаньня № 20*).

**А. Вішнеўскі.**

---

## 13. Якое значэньне мае правільна арганізаваны вэтэрынарна-санітарны нагляд ў справе барацьбы з пошасьцямі дамовай жывёлы **).

Вельмі вялікае значэньне ў барацьбе з заразьлівымі хваробамі жывёлы мае правільная арганізацыя вэтэрынарна-санітарнага нагляду. Такі нагляд прадугледжваецца як на шляхох зносін, так і ў разьніцах, забойных пунктах і закладах, прызначаных для хаваньня і апрацоўкі сырых жывёлавых прадуктаў. Шляхі зносін нярэдка зьяўляюцца крыніцаю распаўсюджваньня заразьлівых хвароб на далёкія адлегласьці.

Уявім сабе, што з мясцовасьці, недабрабытнай па „сібірцы“, пагружана скаціна. Пагружаная жывёла заражана, але знаходзіцца яшчэ ў захаваным пэрыядзе хваробы і здаецца як-быццам здаровую.

Праз некалькі дзён выяўляецца захварэньне, а жывёла ўжо будзе вывезена далёка ад недабрабытнай па „сібірцы“ мясцовасьці. Трупы паўшай жывёлы ў такіх выпадках паціху выкідаюць па дарозе, і такім чынам ствараецца новы асяродак пашасьці.

Вось дзеля чаго надзвычайна важна самае стараннае правядзеньне вэтэрынарнага нагляду на шляхох зносін.

Калі-б скаціна грузілася з дазваленьня вэтэрынарнага доктара, агледзеўшага яе і ведаючага, адкуль яна паходзіць, калі-б у дарозе з а х о ў в а л і с я ўсе правілы, прадугледжаныя нашым Вэтэрынарным Статутам, то, напэўна, небясьпека распаўсюджваньня заразы на шляхох зносін была-б цалкам зьнішчана.

Нездарма Вэтэрынарны Статут на гэтай справе вэтэрынарнай дзейнасьці падрабязна спыняецца і дае дасканалыя дакладныя паказаньні ўмоў, пры якіх дазваляецца перасоўваньне гуртоў і партый жывёлы па чыгуначных, вадзяных і грунтавых шляхох.

Трэба ўсім, а ў асаблівасьці прадстаўніком сельскай ўлады, сачыць за дакладным выкананьнем гэтых правіл, за тым, каб на гэтым грунце ня было злаўжываньняў, бо ў выкананьні паказаных Вэтэрынарным Статутам правіл—галоўная ўмова найхутчэйшага зьнішчэньня заразы.

Што тычыцца вэтэрынарна-санітарнага нагляду за сырымі жывёлавымі прадуктамі і за закладамі, апрацоўваючымі іх, дык тут вэтэрынарыя з аднаго боку—праводзіць барацьбу з заразнымі хваробамі жывёлы, а з другога—ахоўвае народнае здароўе ад заразьлівых

---

*) Бюлэтэнь СНК БССР за 15 студзеня 1927 году № 2 (27), адказ на пытаньне 2.

**) Друкуецца ў растлумачэньне вэтэрынарна-санітарных правіл, зьмешчаных у Бюлетені СНК БССР №№ 7, 10, 11 і 16—1926 году і ў № 1—1927 году.

хвароб, пераходзячых на людзей праз заражаныя жывёлавыя прадукты.

У глухіх, цёмных вёсках, часам па цемры, а часам і па хціваські, здымаюць з паўшай ад заразьлівай хваробы жывёлы скуры і прадаюць іх. Пры многіх хваробах здыманьне скуры з паўшай жывёлы зусім недапушчальна і вельмі небясьпечна, бо такая скура, паступаючы, напрыклад, на скураны завод, выклікае там заражэньне і сьмяротнае захварэньне чалавека. Так, напрыклад, вялікую небясьпечнасьць прадстаўляюць скуры жывёлы, паўшай ад сібірскай язвы. У нас па вёсках і гарадох, нажаль, нярэдкі выпадкі заражэньня чалавека „сібіркай“ пры апрацоўцы жывёлавых прадуктаў. Пагэтаму трэба засьцерагаць сябе ад такой небясьпечнасьці заражэньня і пільнавацца ўсіх тых правіл, якія прадугледжвае Вэтэрынарны Статут.

Урэшце, вэтэрынарны нагляд у разьніцах мае на мэце выпуск на рынак дабраякасных жывёлавых прадуктаў, ужываемых у яду чалавекам. Апроч заразьлівых хвароб („сібірка“, насацізна), якія часам выяўляюцца ў разьніцах, вельмі нярэдкі, гэтак называемыя, чужаедныя хваробы, пры якіх мяса забітай жывёлы заражана бывае зародкамі рабакоў, якія могуць выклікаць у чалавека цяжкае захварэньне.

У мясе сьвіньні і буйнай рагатай жывёлы наглядаюцца часам дробныя, велічынёю з гарошыну, пузыркі. Гэта зародкі рабакоў, якія завуцца ф і н а м і. Калі такое заражанае мяса зьесьці, дык у чалавека у кішках зьяўляецца рабак—с а л і т э р, дасягаючы вялізных разьмераў—да некалькіх сажняў даўжыні. Часам у мясе сьвіньні выяўляюцца асобныя, нявідныя простым вокам, рабакі—трыхіны, якія пападаючы ў нутро чалавека, прабіраюцца адтуль у мышцы, выклікаючы вельмі цяжкую, балючую хваробу, якая нярэдка канчаецца сьмерцю. Апроч гэтых, у мясе сустракаюцца зародкі і іншых вельмі рознастайных хвароб.

Старанна правадзімы вэтэрынарны нагляд ў разьніцах гарантуе дабраякаснасьць выпушчаемых на рынак прадуктаў і абараняе чалавека ад заражэньня гэтымі прадуктамі.

Такім чынам, вэтэрынарна-санітарная дзейнасьць зьяўляецца вельмі важнай галінай народнай гаспадаркі, пагэтаму аб ажыцьцяўленьні яе наш Вэтэрынарны Статут гаворыць даволі падрабязна. У чым асновы гэтай дзейнасьці і што іменна ў гэтай галіне паказвае Статут—аб гэтым будзе зьмешчана ў далейшым.

**М. Жарын.**

---

## 14. Аб рэарганізацыі часьцей па культурна-асьветных справах пры Раённых Выканаўчых Камітэтах.

(*У парадку абмеркаваньня*).

Пытаньне, закранутае тав. Лодысевым (гл. Бюлетэнь Савету Народных Камісараў № 16 (25) за 25 сьнежня 1926 г.) неабходна шырока абмеркаваць зацікаўленым установам. З думкамі, выказанымі т. Лодысевым, і з тымі прапановамі частковай рэарганізацыі культурна-асьветных часьцей у Раённыя інспэктуры, якія вынес Шклоўскі Раённы Выканаўчы Камітэт, я ня зусім згодзен. Было пытаньне пастаўлена таксама і на пасяджэньні Рагачоўскага Раённага Выканаўчага Камітэту, якое праэкт Савету Народных Камісараў ад-

хіліла, лічачы, каб часьць па культурна-асьветных справах пры Раённых Выканаўчых Камітэтах існавала, але каб на такі вялізарны раён быў асобны інспэктар у дапамогу загадчыку часьці. Да пытаньня аднесьліся сур'ёзна. Прадстаўнік саюзу Працаўнікоў Асьветы выказаў думку, што рэарганізаваць культчасьці ў раённую інспэктуру неабходна, бо цяперашні загадчык культчасьці, ведаючы гаспадарчым бокам школы, ня мае ніякага прадстаўленьня аб пэдагагічным баку школы, аб навыках вучняў, аб адпавяданьні настаўніка свайму прызначэньню і г. д. Для гэтае працы трэба вылучыць вясковага або гарадзкога настаўніка з пэдагагічнай адукацыяй, добра ведаючага школу, які ня толькі будзе сачыць за гаспадарчай часткай школы, але таксама і за пэдагагічнай. З гэтай прапановай трэба цалкам згадзіцца. Такі інспэктар у раёне будзе мець магчымасьць абглядзець усе школы хоць-бы два разы ў год і кожны раз даючы мэтадычныя паказаньні. Такі інспэктар—загадчык культурнымі справамі раёну будзе добра ведаць гаспадарчае становішча і пэдагагічны бок школы. Працуючы трэці год настаўнікам, я меў такі выпадак, калі загадчык культчасьці праяжджае ў сельскі савет міма школы не заехаўшы паглядзець, як у ёй ідзе праца і г. д., ня гледзечы на тое, што інспэктар тут ня быў цэлы год. Добра было-б, каб наш раён меў свайго асобнага інспэктара, але гэтага не дазволяць сродкі, а пагэтаму пастанову Рагачоўскага Раённага Выканаўчага Камітэту можна лічыць немэтазгоднай. Маючы раённага інспэктара па народнай асьвеце, мы будзем мець магчымасьць ведаць становішча культурных устаноў раёну і апрача гэтага атрымліваць мэтадычныя паказаньні, бо мэтадычныя камісіі пакуль што працуюць слаба. Аб мэтазгоднасьці мець аднаго інспэктара на два раёны ў дапамогу загадчыку культчасьці і гутарыць ня прыходзіцца. Аб гэтым выстарчальна сказаў т. Лодысеў. А калі мы будзем мець яшчэ акруговага інспэктара, то культурна-асьветныя ўстановы пры такой рэарганізацыі культчасьцей у раённую інспэктуру народнае асьветы будуць мець добрае мэтадычнае кіраўніцтва. Аб скасаваньні аддзелу народнае асьветы акруговага маштабу гаварыць яшчэ рана: ён патрэбен яшчэ пакуль што, як і іншыя, каторыя таксама рассылаюць копіі абежнікаў сваіх наркаматаў.

Рэарганізаваўшы культурна-асьветныя часьці пры Раённых Выканаўчых Камітэтах, мы такім чынам значна палепшым справу народнае асьветы.

**Я. Савіцкі.**

22 студзеня 1927 г.
в. Крушынаўка Рагачоўскага раёну.

---

## 15. Закон, які на практыцы ніколі ня ўжываецца.

*(У парадку абмеркаваньня).*

У нас ёсьць такі закон, вельмі добры і вельмі важны, які, нажаль, на практыцы ніколі ня ўжываецца—гэта артыкул 69 Зямельнага Кодэксу БССР. Здавалася-б, што гэты артыкул, ахоўваючы маемасьць і моц сялянскага двара, павінен быў-бы іграць пяршынствуючую ролю пры спагнаньнях, зьвяртаемых на сялянскую гаспадарку за даўгі паасобных яго членаў, зробленых імі не для патрэб усяго двара ў цэлым, а, паміж тым, калі член двара-даўжнік, ня мае на руках спраўкі, што ён выдзелен з гаспадаркі і падзел гэты належным чынам аформлен, то спагнаньне зьвяртаецца на маемасьць усяго двара, і ніякія пратэсты самога даўжніка і іншых членаў двара

ня выратуюць маемасьці ад продажу, а двор ад разбурэньня. Практыка паказала што ні суд, ва ўсіх яго інстанцыях, ні Пракуратура ў гэтых выпадках, звычайна, не аказваюць належнай абароны сялянскаму двару, і арт. 69 Зямельнага Кодэксу застаецца мёртвай літарай закону, не знаходзячай сабе ўжываньня ў жыцьці. Тут, канечна, не гаворыцца аб даўгох паасобных членаў двара па алімэнтных справах, у адносінах якіх ёсьць пэўныя растлумачэньні, што спагнаньні па іх робяцца з маемасьці ўсяго двара. У данным выпадку гутарка ідзе толькі аб тых спагнаньнях, якія, на падставе пунктуальнага сэнсу арт. 69 Зямельнага Кодэксу, ні ў якім выпадку не павінны спаганяцца з маемасьці двара ў цалым. Аднак, ня гледзячы на тое, што ў дадатак да арт. 71 Зямельнага Кодэксу РСФСР, ён-жа арт. 69 Зямельнага Кодэксу БССР, быў выдан цэлы шэраг цыркуляраў: Цыркуляр НКЮ РСФСР за 28 ліпеня 1923 году № 159 і за 1925 год № 134, і, нарэшце, у нас у БССР растлумачэньне арт. 69 Зямельнага Кодэксу ў зборы законаў за 1924 год № 15 арт. 136, а возу ўсё няма ходу, і спагнаньні за даўгі паасобных членаў як і раней зьвяртаюцца на маемасьць усяго двара, што выклікае, нярэдка, масу непажаданых зьявішч, якіх пры належнай увазе да памянёнага артыкулу, канечна, ня было-б: сямейныя бязладзьдзі, усякага роду фіктыўныя падзелы, навальная распрадажа, часта за бясцэнак, усяе лішняе маемасьці і, у канцовым выніку, поўнае паслабленьне двара—вось звычайныя вынікі большасьці спагнаньняў, зьвяртаемых на двор за даўгі паасобных яго членаў. У чым-жа хаваецца прычына такога ігнараваньня гэтага артыкулу? Мне здаецца, што гэта робіцца, галоўным чынам, дзякуючы некаторай няяснасьці як самога артыкулу, так, у асаблівасьці, і растлумачваючых яго цыркуляраў, агульны сэнс якіх той, што пры зьвяртаньні спагнаньня на маемасьць двара за даўгі паасобных яго членаў, належыць зрабіць падзел двара і спагнаньне зьвярнуць на маемасьць, якая падае на долю даўжніка. Вось тут-та, па-мойму, і ёсьць корань усіх цяжкасьцяй па ўжываньню арт. 69, дзеля таго што не паказана, каму іменна належыць зрабіць падзел двара, праўдзівей—выдзел з яго даўжніка,—суду, або асобе, робячай спагнаньне? Паколькі ясна, што падзел ня можа быць зроблен выканаўцам спагнаньня, бо пры гэтым магчым недапусьцімы самавол, і, апроч таго, гэты падзел у далейшым ня будзе мець законнай моцы для іншых членаў двара, патолькі прыходзіцца заключыць, што такі выдзел павінен быць зроблен судом або зямельнай камісіяй. Але хто-ж, у такім выпадку, павінен узбуджаць хадайніцтва аб выдзеле?—Спагнаньнік, даўжнік або іншыя члены двара? Гэтыя пытаньні ў нашым законадаўстве ня высьветлены, чаму арт. 69 Зямельнага Кодэксу, дзякуючы, галоўным чынам, юрыдычнай няпісьменнасьці сялянства, застаецца без ужываньня, ад чаго зачаста церпіць сялянская гаспадарка. Паміж тым, мне здаецца, што ў асаблівасьці ў цяперашні час, калі ўсюды ўзят курс на правядзеньне рэвалюцыйнай законнасьці, гэты артыкул набывае сугубае значэньне, і ператварэньне яго з мёртвай літары закону ў артыкул, сапраўды ахоўваючы сялянскую гаспадарку, настойна дыктуецца самім жыцьцём. Пагэтаму было-б вельмі пажадана, каб па закранутаму пытаньню выказаліся таварышы з органаў Суду і Пракуратуры, каб агульнымі высілкамі ажыцьцявіць гэты закамянелы-артыкул у жывую норму права.

24 студзеня 1927 г.

**М. Рэйшах-Рыт.**

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**